© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014


# Наша Свабода

№30(257) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

18 САКАВІКА 2002 году ПАНЯДЗЕЛАК



Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 2100-253, факс 2100-254

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com


КОШТ СВАБОДНЫ

## Вёска не гатовая да сяўбы

Гатоўнасць сельскагаспадарчых прадпрыемстваў Беларусі да вясенняй сяўбы пакідае жадаць лепшага. Аб гэтым заявіў 15 сакавіка ў інтэрв'ю Беларускаму тэлебачанню віцэ-прэм'ер ураду Аляксандр Папкоў.

«На жаль, сёння мы не маем дастаткова мінеральных угнаенняў, не завершаны рамонт сельскагаспадарчай тэхнікі. Ёсць цэлы шэраг калгасаў і саўгасаў, якія не назапасілі ў дастатковай ступені гаруча-змазачныя матэрыялы», – паведаміў Папкоў. У гэтай сувязі, паводле словаў віцэ-прэм'ера, урад «пераходзіць у рэжым актыўнай працы, шукае магчымасці літаральна на працягу двух тыдняў зняць усе праблемы, якія перашкаджаюць правядзенню вясенніх палявых працаў».

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

## Мацуем сяброўскія сувязі з Іракам

У Мінск прыехала іракская ўрадавая дэлегацыя. Яе ачольвае віцэ-прэм'ер краіны, міністр фінансаў Хікмат аль-Азаві. У праграме – сустрэча з Аляксандрам Лукашэнкам, а таксама двухбаковыя перамовы.

Дэлегацыя з Іраку завітала да нас, каб правесці паседжанне супольнай беларуска-іракскай камісіі па гандлёвым і эканамічным супрацоўніцтве.

У Міністэрстве замежных справаў сцвярджаюць, што супрацоўніцтва з Іракам вядзецца выключна ў межах праграмы ААН «Нафта ў абмен на харчаванне і медыкаменты».

Летась Беларусь здолела ў чатыры разы павялічыць свой экспарт у Ірак – гэты паказчык, па звестках беларускага МЗС, склаў 26 мільёнаў даляраў ЗША. Мы экспартуем трактары, грузавыя аўтамабілі і запасныя часткі да іх, шыны. Беларускія прадпрыемствы ўдзельнічаюць у розных тэндэрах, праводзімых у Іраку, у тым ліку ў такіх галінах, як электраэнергетыка, стварэнне супольных вытворчасцяў, пастаўка аўтамабільнай і сельскагаспадарчай тэхнікі.

*Заканчэнне на стар.3*

# Статкевіч не прайшоў



Фота IREX/ProMedia

На дзень Канстытуцыі калоне сацыял-дэмакратаў перакрылі шлях. Глядзі стар.3

# Дымі беларускімі, беларус!

*У Дзень Канстытуцыі 15 сакавіка прэм'ер-міністр Г.Навіцкі наведаў гродзенскую тытунёвую фабрыку «Нёман». Знаёмства з вытворчасцю пачалося ў 8 гадзін раніцы. Аднак у навінах беларускага тэлебачання ў 9 раніцы нічога не сказалі пра гэтую падзею, а асоба прэм'ера ўвогуле не згадвалася.*

Фабрыку наведвалі ўсе апошнія беларускія прэм'еры, а Лукашэнка пабываў на ёй нават некалькі разоў. Без грошай састарэлую вытворчасць не палепшыць. Шэсць гадоў таму дзяржава шукала замежных інвестараў. То да туркаў мела намер звярнуцца, то да балгараў, то нешта заходнікам абяцала. Аднак нікога ў рэшце рэшт не падпусцілі да канвееру. Надта ж «стратэгічная» фабрыка: забяспечвае «тытунёвую бяспеку» краіны і «цыгарэтную незалежнасць», як паводле тэрміналогіі нашага кіраўніка. Не выпадкова ж Г.Навіцкі назваў гродзенскую фабрыку «нацыянальным набыткам». Сказаў нават, што яна – наш «нацыянальны гонар». Паколькі, маўляў, існуе з 1861 году. Таму, маючы гэткія тытунёвыя традыцыі, нам не выпадае вазіць цыгарэты з-за мяжы, трэба сябе цалкам забяспечваць сваімі. Такім быў змест выступу прэм'ера перад журналістамі.

Калі ўжо ўдакладняць, дык з 1861 г. у Гродне існавала цыгарная фабрыка. А вось фабрыка Шарашэўскага, ад якой вядзе гісторыю цяперашняя, адкрылася ў 1862-м. У Ёселя Шарашэўскага і Файвеля Русоты выпускаліся папяросы, цыгарэты, махорка, а таксама фасаваўся тытунь – для палення і для жавання. Праз 15 гадоў на фабрыцы былі занятыя ўжо каля 700 працоўных. За год было выпушчана 9 316 000 адзінак цыгарэтаў і 48 202 000 – папяросаў. Сёння маштабы іншыя. За год выпрабляецца 9,5 мільярда цыгарэтаў. Праўда, толькі чвэрць з іх – з фільтрам. Астатнія, як прызнаўся прэм'ер, вельмі нізкай якасці. Хаця сабекошт немалы, бо тэхналогія, па словах старшыні ўраду, «дапатопная».

*Заканчэнне на стар.3*




Падпісны індэкс НАШАЙ СВАБОДЫ 63478

# Аўстрыйскі адпачынак

*Учора Аляксандр Лукашэнка павінен быў вярнуцца з адпачынку, які ён бавіў у мястэчку Зіфельд, што ў Цыролі (Аўстрыя). Гэтае падарожжа каштавала беларускаму бюджэту болей, чым некалькіх гадавых заробкаў кіраўніка дзяржавы.*



### Адпачынак як таямніца

Як мы ўжо паведамлялі, беларускі кіраўнік накіраваўся ў Аўстрыю прыватным чынам – як старшыня Нацыянальнага алімпійскага камітэту. Высветлілася, што рашэнне Еўрапейскага Саюзу забараніць найвышэйшым чыноўнікам Беларусі ўезд у краіны ЕС (дыпламатычны адказ на высяленне амбасадараў з «Драздоў») не датычыць прыватных падарожжаў.

Хутчэй за ўсё, візу на ўезд у Аўстрыю, чальца Шэнгенскага пагаднення, выдала нямецкая амбасада. Аднак яе супрацоўнікі адмаўляюцца ад якога-кольвек каментару, што да візавых пытанняў. Беларускім чыноўнікам не ўдалося схаваць нечаканага ад'езду шэфа, таму спачатку сам адпачынак трымаўся ў таямніцы, потым прызналіся, што А.Лукашэнка адпачывае, але не казалі, што за мяжой, потым прызналіся, што прэзідэнт у Аўстрыі, але не казалі, дзе...

### Самы вар'яцкі гатэль

Цяпер мы ведаем, што апошнія дзесяць дзён беларускі кіраўнік правёў у пяцізоркавым гатэлі *Klosterbrau*. Інтэрнэт-сайт гэтага гатэлю называе яго «самым вар'яцкім гатэлем у Альпах». А вось што супрацоўнікі гатэлю паведамляюць пра яго: «Колеры адпачынку, камфорт і прыродная раскоша дораць спакой у нашым пяцізоркавым гатэлі. Нашыя госці могуць разлічваць на гэта і нават на большае ў нашых фантастычных пакоях.

*Заканчэнне на стар.4*

ВЕСТКІ




## У мінскіх крамах навядуць парадак

Мінскія ўлады абяцаюць, што цягам гэтага году ў сталіцы будуць прыведзеныя да належнага ладу паўтары сотні крамаў з тых 2 тысяч, што працуюць у горадзе. У іх будуць зробленыя капітальныя рамонты і замененае рэкламнае афармленне. А тым часам з 15 сакавіка ў Мінску пачаўся месячнік уборкі і добраўпарадкавання вуліц, плошчаў, двароў, сквераў і паркаў.

## Цэны растуць гэтак жа, як летась

Паводле Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, з пачатку году спажывецкія цэны ў нашай краіне выраслі на 10,8%: у студзені – на 6,1, у лютым – на 3,6%, за першы тыдзень сакавіка – на 0,8%. За аналагічны перыяд мінулага году спажывецкія цэны падвысіліся на 10,6%.

## Абяцанні кампенсацыі ўкладаў

Старшыня праўлення Нацыянальнага банку Пётр Пракаповіч заявіў, што ўрад Беларусі рыхтуе праект новага прэзідэнцкага ўказу аб поўнай кампенсацыі страчаных банкаўскіх укладаў насельніцтва. Згодна з праектам указу, ажыццяўляцца поўная кампенсацыя ўкладаў будзе, пачынаючы з 2003 года на працягу 20 гадоў. Кожны год на гэта мяркуецца выдзяляць ад 50 да 100 мільёнаў даляраў. Цяпер застаецца недзе знайсці такія грошы.

## Паветраныя нелегалы з Іраку

Спроба васьмі іракцаў незаконна апынуцца на тэрыторыі нашай краіны завяршылася нічым. Грамадзяне Іраку прыбылі ў беларускую сталіцу на самалёце са Стамбулу, але былі затрыманыя з падробнымі дакументамі ў Нацыянальным аэрапорце «Мінск» на лініі пашпартнага кантролю.

## Кантроль над капіравальнымі апаратамі

Міністэрства ўнутраных справаў Беларусі прапануе паставіць на ўлік усе каляровыя капіравальныя апараты. Як паведаміла агенцтва «Росбалт», такая ініцыятыва выкліканая павелічэннем колькасці выпадкаў абарачэння фальшывых грашовых купюраў. Толькі з пачатку гэтага году ў нашай краіне зафіксаваныя 2 203 выпадкі збыту падробак.

НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.gismeteo.ru

Курс наяўнага даляра на «чорным рынку»

1730

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



ВЕСТКІ



## Веснавая ахова дарог

Як паведамілі ў «Белаўтадарэ», на гэтым тыдні на шэрагу беларускіх аўтамагістраляў уводзяцца некаторыя абмежаванні на рух цяжкіх грузавікоў. Робіцца гэта дзеля аховы ўвесну дарожных пакрыццяў. Абмежаванні будуць дзейнічаць у перыяд з 22 сакавіка па 1 траўня: максімальна дапушчальная нагрузка на адзіночную вось – ад 6 да 9 тон.

## Ртуць у сыр не патрапіла

На Бялыніцкім сыраробным заводзе днямі была знойдзеная ртуць. Мясцовыя ратавальнікі сабралі на тэрыторыі заводу каля 100 грамаў гэтага рэчыва, якое, як сцвярджаецца, у прадукцыю не патрапіла.

## Кілбасная праверка

У Беларусі пачалася ініцыяваная Мінсельгасхарчам праверка якасці тавараў айчыннай і замежнай вытворчасці, што рэалізуюцца прадпрыемствамі гуртовага і раздробавага гандлю. Гэта тычыцца продажу кілбасаў, мясных кансерваў і цэльнамалочнай прадукцыі.

## Рэжым для кнігалюбаў

На мінулым тыдні была адключаная ад крыніцаў электраэнергіі Віцебская абласная бібліятэка імя Леніна. Цяпер бібліятэка працуе толькі ў светлы час сутак з 10 да 19 гадзінаў.

## Небяспечныя вагоны

У кожнага трэцяга вагона, які вязе праз Беларусь небяспечныя грузы, скончыўся тэрмін эксплуатацыі. Штодзень праз тэрыторыю Беларусі, як падае радыё «Рацыя», праходзіць больш за 1 600 вагонаў з небяспечнымі грузамі. На думку спецыялістаў Праматамнагляду, больш за 70% зношаных вагонаў знаходзяцца ў тэхнічна непрыдатным стане па віне транзітных перавозчыкаў з Расіі ды Украіны.

## Індустрыя забавак

Выстава «Індустрыя забавак» пройдзе з 22 па 24 сакавіка ў Мінску. На ёй будзе прадстаўленае абсталяванне для зон масавага адпачынку, аўтапаркаў, казіно, більярдных і трэнажорных заляў, разнастайныя гульнёвыя аўтаматы і атракцыёны.

## «Нейро Дюбель» беларусізуецца

Беларуская музычная альтэрнатыва запланавала на красавік шэраг цікавых імпрэзаў, якія пройдуць у парк-клубе «Мінск». Адна з іх адбудзецца тут 12 красавіка, калі будзе прэзентаваны новы альбом гурта «Нейро Дюбель» пад назвай «Правдивые истории о том, как у Карлсона угнали комбинезон». Што цікава, тры песні Кулінковіча і кампаніі ў гэтым альбоме будуць на беларускай мове.

# Беларускіх вайскоўцаў муштруюць у Расіі

Пачынаючы з 2003 году ў беларускую армію пачнуць паступаць выпускнікі вышэйшых ваенных навучальных установаў Расійскай Федэрацыі. Аб гэтым паведамілу БелаПАНу намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення кадраў Міністэрства абароны Беларусі палкоўнік Канстанцін Шведаў.

Паводле яго інфармацыі, у Расіі праходзяць абучэнне 404 ваеннаслужачыя беларускай арміі: 279 курсантаў і 125 афіцэраў, у тым ліку 14 афіцэраў – у Ваеннай акадэміі Генеральнага штабу Расіі.

Паводле слоў Шведава, у Расійскай Федэрацыі рыхтуюцца ваенныя спецыялісты «дэфіцытных спецыяльнасцяў»: фінансісты, спецыялісты войскаў супрацьпаветранай абароны, лётчыкі і іншыя. Абучэнне беларускіх ваенных праводзіцца за кошт сродкаў Мінабароны Беларусі. Разам з тым Шведаў падкрэсліў, што «ў цэлым у Беларусі наладжана падрыхтоўка вайсковых кадраў асабістымі сіламі». Ён паведаміў, што Ваенная акадэмія Беларусі выпускае ў сярэднім 540 афіцэраў штогод, у тым ліку камандна-штабны факультэт рыхтуе 90 афіцэраў найвышэйшага звяна кіравання.

**Юрый КАСЬЯНАЎ**

# Старых правяраюць на цярплівасць

У Магілёўскай вобласці з пачатку гэтага году з'явілася праблема своечасовай выплаты пенсій. Так, у лютым выплата пенсій была затрымана на некалькі дзён, у сакавіку – амаль на тыдзень.

Паводле звестак на пачатак сакавіка, доўг суб'ектаў гаспадарання Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва вобласці перавысіў 20 мільярдаў рублёў.

**БелаПАН**

# Абраза ці мастацтва?

14 сакавіка ў публічнай абразе прэзідэнта былі прызнаныя вінаватымі шклоўскія актывісты маладзёжнага руху «ЗУБР», якія атрымалі штрафы ад 20 да 100 мінімальных заробкаў. 14 сакавіка ў судовым працэсе быў апытаны мастацтвазнаўца Юрась Барысевіч, які ахарактарызаваў падзеі 14 жніўня ў вёсцы Гарадзец з пункту гледжання мастацтва: «Гэта была мастацкая акцыя – перформанс. Гэты від сучаснага мастацтва апошнім часам пачаў актыўна развівацца ў Беларусі».

У сваім выступе пракурор Ірына Алдонава заявіла, што абвінавачваемыя «з'яўляюцца выканаўцамі злачынства, ініцыятарамі якога з'яўляюцца людзі, якія стаяць у апазіцыі да прэзідэнта». Здзівіла адна дэталь працэсу, на якім вельмі шмат гаварылася пра катэгорыі этычныя і эстэтычныя – «прыстойнага» і «непрыстойнага», «прыгожага» і «непрыгожага», – на працягу дня ў залі судовага паседжання пракурор Ірына Алдонава жавала жвачку.

**ПЦ «Вясна»**

# Успышка дызентэрыі

Успышка дызентэрыі зафіксаваная ў Ваўкавыску (Гродзенская вобласць). У перыяд з 6 па 13 сакавіка ў бальніцы гораду паступіла 40 чалавек, з іх 31 дзіця, а 14 сакавіка былі шпіталізаваныя яшчэ 32 чалавекі.

Крыніцай захворвання з'яўляецца сярэдняя школа №7 Ваўкавыску. Мяркуецца, што віноўніцай захворвання дзяцей і выкладчыкаў школы стала адна з работніц школьнай сталовай, якая была хворая на дызентэрыю. Па факце масавага захворвання вучняў і іх настаўнікаў працуюць прадстаўнікі пракуратуры, узбуджана крымінальная справа па парушэнні правілаў санітарных норм.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ**

# Масавае захворванне дзяцей

Каля 100 дзяцей, у асноўным ад 3 да 6 гадоў, заразіліся ў Магілёве кішачнай інфекцыяй у перыяд з 12 па 15 сакавіка пасля знаходжання ў дзіцячых садах. Прычына заражэння пакуль не ўстаноўлена.

Паводле інфармацыі абласнога цэнтру гігіены і эпідэміялогіі, захворванне праходзіць у лёгкай форме на фоне рэспіраторных паражэнняў. Хутчэй за ўсё, яно выклікана нейкімі прадуктамі. Канчатковае заключэнне можа з'явіцца на гэтым тыдні пасля лабараторных даследаванняў ежы і вады.

**Канстанцін УВАРАЎ**

# Злачынца скочыў з пятага паверху

Сталічная міліцыя вядзе вышук злачынцаў, якія здзейснілі разбойны напад на кватэру аднаго з жыхароў Мінску. Гаспадар кватэры ў адным з дамоў па вуліцы Ясеніна ў Мінску адчыніў дзверы на званок. У кватэру ўварваліся чацвёра ў масках. 38-гадовы гаспадар аказаў супраціўленне і быў збіты. Аднак крыкі пачула адна з суседак па пляцоўцы і выклікала міліцыю. Злачынцы спрабавалі ўцячы. Адзін з іх саскочыў з балкона кватэры, што размешчана на пятым паверсе жылога дома. Пры падзенні малады чалавек 24 гадоў атрымаў чэрапна-мазгавую траўму сярэдняй цяжкасці, зламаў некалькі рэбраў і правае сцягно. Астатнія тры злачынцы ўцяклі з украдзенымі ў кватэры 250 еўра і 30 даларамі ЗША. Па факце разбойнага нападу ўзбуджана крымінальная справа.

# Дапамога Сусветнага банку

*на лекаванне беларускіх хваробаў*

Сусветным банкам зацверджана Стратэгія фінансавай дапамогі Беларусі на бліжэйшыя тры гады. Свае рэсурсы банк мяркуе накіраваць першым чынам на барацьбу з сацыяльнымі наступствамі Чарнобыльскай аварыі, захворваннямі на сухоты і СНІД.

Гэтыя напрамкі выбраныя невыпадкова. Як вядома, па ўзроўні захворванняў на сухоты Беларусь ужо даўно перайшла дапушчальную мяжу, вызначаную Сусветнай арганізацыяй аховы здароўя – 50 захвараўшых на 100 000 насельніцтва. У нас гэты паказальнік апошнія гадамі дасягнуў узроўню ў 67 хворых. Гэта цалкам па краіне, а, напрыклад, у Чарнобыльскай зоне ён складае да 120 хворых на 100 000 чалавек. Дык што тут можна ўжо казаць пра турмы – спрадвечны рассаднік сухотаў, дзе агульны па краіне ўзровень захворванняў перавышаны ў 30 разоў.

Каб залішні раз не казаць, што гэтая хвароба заўсёды была адлюстраваннем нізкага ўзроўню жыцця чалавека, проста параўнаем нашую статыстыку з іншаземнай: у Даніі з 100 000 насельніцтва на сухоты хварэе не больш за 6 чалавек, а ў Германіі –12.

Між тым распаўсюджванню туберкулёзу, напрыклад, вельмі спрыяе СНІД. Афіцыйна дыягназ СНІД у нашай краіне маюць толькі 28 хворых. Астатніх медыкі прызнаюць ВІЧ-інфіцыраванымі – і такіх у нас на ўліку зараз каля 3,8 тысячы чалавек. З 1996 году спіс такіх хворых імкліва павялічваецца: штогод ён папаўняецца на 400-500 чалавек. Адзін рэкорд 1996 году, калі хворымі на ВІЧ былі прызнаныя больш за 1 000 чалавек, яшчэ не пабіты.

Паступова інфіцыраваныя губляюць імунітэт ад хваробаў, і прыкладна праз 8 год іхні арганізм ужо не можа супрацьстаяць палачцы Коха. Такім чынам, прыблізна ў 2005 годзе беларускія медыкі чакаюць рэзкага росту колькасці захворванняў на сухоты ў нашай краіне.

Лячэнне гэтай хваробы абыходзіцца вельмі дорага, і грошы Сусветнага банку тут не былі б лішнімі. Аднак, які дакладна аб'ём фінансавання атрымае Беларусь цягам бліжэйшых трох год, пакуль невядома. Фігуруюць дзве лічбы: 140 альбо 250 мільёнаў даляраў. А на якім з гэтых двух варыянтаў спыніцца банк залежыць ад таго, наколькі ўдалым будзе супрацоўніцтва банку і нашага ўраду ў тым ліку і па іншых банкаўскіх праграмах. Сярод іх, напрыклад, стварэнне ў краіне спрыяльнага бізнес-клімату для прадпрымальніцтва.

**Інга ГРЫМОНТАВА**

# Цыгарэтныя трафеі мытнікаў

6 сакавіка на памежным пераходзе «Бераставіца–Бабpоўнікі» нашы мытнікі выкрылі вялікую партыю кантрабандных цыгарэт. У грузавіку «Івеко», які належаў гродзенскай фірме, знойдзена 32 210 пачак цыгарэт «Вест». Кантрабанды груз накіроўваўся ў Галандыю. Яго кошт – 27 млн. рублёў. 11 сакавіка ў двух легкавых аўтамабілях мытнікі выкрылі 130 літраў схаванага спірту. Машыны накіроўваліся ў Польшчу таксама праз КПП «Бераставіца».

# Памежнікі і браканьеры

Двух браканьераў – грамадзян Беларусі, якія лавілі сеткай рыбу на рацэ Сож, затрымалі памежнікі Гомельскага пагранічнага атраду. Нарад выявіў двух чалавек у лодцы, якія ставілі сіло ля ўкраінскага берага. Памежнікам дзякуючы дапамозе групы пагранічных катэраў, што базіруюцца ў Лоеве, удалося вярнуць браканьераў на беларускую тэрыторыю. Пры затрыманні ў іх было канфіскавана 125 кг рыбы. Сеткі і ўлоў памежнікі перадалі ў Лоеўскую рыбінспекцыю.

НАШЫ МЕЖЫ




Фота Ул.ШЛАПАКА

Святочныя гулянні жыхароў вёскі Дабранка (Украіна) і Паддабранка (Беларусь) з выпадку адкрыцця спрошчанага пункту пропуску праз дзяржаўную граніцу, 15 сакавіка 2002 году. Граніца праходзіць па рацэ, падзяляючы вёску на дзве часткі. Раней для таго, каб афіцыйна патрапіць на тэрыторыю суседняй дзяржавы, неабходна было ехаць на пункт пропуску Новая Гута, які знаходзіцца за 20 кіламетраў.

# Кантрабандныя «сотавікі»

Пагранічнікі Смаргонскага атраду сумесна з мытнікамі прадухілілі незаконны ўвоз на тэрыторыю Беларусі партыі сотавых тэлефонаў і зарадных прыстасаванняў да іх. 34 тэлефоны і 43 зарадныя прыстасаванні былі знойдзены пры даглядзе 13 сакавіка ў пункце пропуску «Гудагай-1» на беларуска-літоўскай мяжы пасажырскага цягніка зносінамі «Вільнюс–Масква».

У той жа дзень пагранічнікі Пінскага атраду сумесна з мытнікамі пры дaглядзе ў пункце пропуску «Гарынь» на беларуска-ўкраінскай мяжы пасажырскага цягніка зносінамі «Львоў–Санкт-Пецярбург» у адным з вагонаў выйшлі як бы нічые 390 футляраў для акуляраў, партыю пральных сродкаў, лаку для абутку і прадметаў асабістай гігіены. Кантрабандны груз ацэнены на суму ў паўтара мільёна рублёў.

Пагранічнікі Пінскага атраду пры перасячэнні дзяржаўнай мяжы з Украіны ў Беларусь па-за пунктам пропуску затрымалі грамадзяніна Беларусі, які спрабаваў на аўтамабілі «Фольксваген» увезці ў краіну 9 500 пачкаў цыгарэт. Кантрабандны груз і машына затрыманыя. Яны ацэнены прыкладна на 10 мільёнаў рублёў.

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# Дымі беларускімі, беларус!

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*




Фота Ул.ШЛАПАКА

І яшчэ крыху арыфметыкі. У Мінску прадукуецца ў год яшчэ 2,5 млрд. цыгарэтаў. А ўнутраны рынак спажывае 17 млрд. адзінак. Такім чынам, 5 млрд. імпартуецца. А гэта – страты для дзяржавы, для бюджэту. І тут ужо Г.Навіцкі пачынае разважаць катэгорыямі выключна дзяржаўнага ўзроўню. Гродзенскія цыгарэты часам такія кепскія, што да 1 мільярда штук так і не ўдаецца нікому прадаць. Але дзяржава хоча, каб цыгарэтаў было яшчэ больш. Якім чынам? Па заданні Лукашэнкі ўрад часткова вызваліў фабрыку ад падаткаў. Мэта – гэтыя грошы пусціць на рэканструкцыю, якую завершаць да 1 снежня гэтага году. «Стратэгічная» задача – павялічыць выпуск цыгарэтаў у Гродне на 5 мільярдаў штук. Прэм'ерская арыфметыка паказвае, што тады ўнутраны рынак будзе цалкам насычаны цыгарэтамі.

Ёсць, праўда, адно «але». Унутранага спажыўца немагчыма прымусіць набываць няякасны тавар. Але і на гэта ёсць свае дзяржаўніцкія хітрыкі. Прэм'ер прызнае, што нават пасля рэканструкцыі фабрыкі толькі палову цыгарэтаў удасца выпускаць з фільтрам. Аднак ён тут жа зазначае, што 7 мільярдаў цыгарэтаў кепскай якасці прадаюцца ўнутры Беларусі. Як вядома, таннае, няякаснае купляюць не ад добрага жыцця. Тандэтныя цыгарэты паляць вяскоўцы, працоўныя, салдаты – людзі, якія маюць малыя заробкі. Здаецца, відавочна, што задача ўраду павінна быць зусім іншай. А менавіта: каб як мага болей беларусаў змаглі добра зарабляць, і такім чынам адмовіцца ад няякасных цыгарэтаў. А яшчэ лепей, каб яны ўвогуле адмовіліся ад згубнай звычкі. А значыцца, трэба прапаноўваць ім нешта іншае ды рэальна паляпшаць дабрабыт беларусаў, а не змушаць іх ускосна і надалей псаваць свае лёгкія.

Днямі стала вядома, што амерыканскі прэзідэнт хоча яшчэ больш абмежаваць тытунёвыя кампаніі. Напрыклад, рэклама і самі цыгарэтныя пачкі павінны быць толькі чорна-белымі. Карацей, у Штатах па-сапраўднаму дбаюць пра здароўе людзей, пра змяншэнне колькасці курцоў. У нас сітуацыя адваротная. Тытунёвая фабрыка – дзяржаўная, а дзяржава прагне праз год павялічыць выпуск цыгарэтаў амаль на 60% і тым самым яшчэ пагоршыць здароўе нацыі.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Мацуем сяброўскія сувязі з Іракам

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

15 сакавіка адбылася сустрэча Хікматам аль-Азаві з беларускім віцэ-прэм'ерам Сяргеем Сідорскім. Падчас сустрэчы беларускі бок настойліва прапаноўваў арабскім гасцям пазнаёміцца бліжэй з прамысловымі прадпрыемствамі краіны, асабліва з прадпрыемствамі Брэсцкай вобласці.

У гэты ж дзень пачалося паседжанне супольнай камісіі. Беларускі бок на ёй прадстаўляў намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Леанід Козік. Паводле папярэдніх звестак, камісія абмяркоўвае магчымасці стварэння зборнай вытворчасці беларускіх трактароў на заводзе ў Скандэрыі, грузавых аўтамабіляў, а таксама рэканструкцыі вытворчасці шкляной тары ў Рамадзі і аднаўлення сістэмы водазабеспячэння аднаго з раёнаў Багдаду.

Іракскія госці наведваюць прадпрыемствы «МАЗ», «Інтэграл», Нацыянальную акадэмію навук Беларусі.

Па словах Леаніда Козіка, Беларусь мае змагацца за адмену эканамічнай блакады Іраку. Тады, маўляў, Беларусь пачне атрымліваць выгаду ад двухбаковага супрацоўніцтва.

Паводле навукоўцаў, на тэрыторыі Іраку знаходзіцца 11% сусветнага запасу вуглевадароднай сыравіны. У спісе самых нафтаносных краінаў Ірак саступае толькі Саудаўскай Аравіі. Заходнія адмыслоўцы кажуць, што толькі даказаныя запасы нафты ў краіне складаюць 15,2 мільярда барэляў. А запасы газу амаль дасягнулі трыльёна кубаметраў.

Беларусь не адзіная настойвае на адмене санкцыяў супраць Іраку. Тое самае прапануюць Расія, Кітай і Францыя. Гэта цалкам зразумела, бо чым болей нафты з'яўляецца на рынку, тым яна таннейшая. Беларусь наўпрост зацікаўленая ў атрыманні таннай нафты. Аднак пакуль не пастаўкі істотна абмежаваныя эканамічнай блакадай, накладзенай пасля іракскай агрэсіі супраць Кувейту ў 1990 годзе.

Тым часам усё часцей трапляецца інфармацыя пра тое, што Злучаныя Штаты Амерыкі збіраюцца праводзіць у Іраку антытэрарыстычную аперацыю. Джордж Буш мяркуе, што прэзідэнт Іраку Садам Хусейн – небяспечны для Амерыкі чалавек, які актыўна займаецца пошукам ядравай зброі для сваёй краіны. Намеснік Дж.Буша Рычард Чэйні цяпер знаходзіцца ў вялікім турнэ па арабскіх краінах. Ён спрабуе знайсці саюзнікаў у магчымай вайне супраць Іраку і Садама Хусейна. Аднак пакуль вялікага поспеху не відаць – усе арабскія лідэры супраць маштабнай вайны ў рэгіёне.

**Міхась КАРПОВІЧ**

# Статкевіч не прайшоў

Старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Мікалай Статкевіч змешчаны ў спецпрыёмнік-размеркавальнік УУС Мінгарвыканкаму на вуліцы Акрэсціна. Як паведамілі ў штаб-кватэры партыі, там ён прабудзе да панядзелка. У гэты дзень, як мяркуецца, пройдзе суд.

БСДП (НГ) была арганізатарам несанкцыянаванага шэсця, якое адбылося 15 сакавіка ў Мінску з нагоды 8-й гадавіны прыняцця беларускай Канстытуцыі. У ім узялі ўдзел каля 500 чалавек. Рух калоны быў спынены ланцугамі супрацоўнікаў АМАПу і ўнутраных войскаў на адным з перакрыжаванняў. Каб пазбегуць сутыкненняў, Статкевіч заклікаў дэманстрантаў разысціся.

У той жа дзень прыкладна ў 20.00 у офіс партыі прыбылі супрацоўнікі праваахоўных органаў з позвай, у якой Статкевічу прадпісвалася прыбыць да УУС Савецкага раёну да 21.00 нібыта ў якасці сведкі па адміністрацыйнай справе. Знаходжанне старшыні БСДП (НГ) у РУУС цягнулася нядоўга: ужо ў 21.10 яго павезлі ў спецпрыёмнік-размеркавальнік.

Сакратар партыі па міжнародных справах Мікалай Бірукоў звярнуў увагу на такую акалічнасць: «Яшчэ напярэдадні акцыі – вечарам 14-га і раніцай 15 сакавіка – Статкевіча вышуквала пракуратура, каб уручыць позву аб неабходнасці яўкі. Паводле нашых звестак, Статкевіч можа быць абвінавачаны ў дачыненні да вырабу і распаўсюджання ўлётак з заклікам прыйсці на шэсце».

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

ІНТЭГРАТАР

# Пракаповіч ахалоджвае Барадзіна

Як вядома, шмат хто з расійскіх палітыкаў спяшаюцца пасадзіць Беларусь на кароткі ланцужок агульнага (расійскага) рубля. Нядаўна з заявай пра ўвядзенне агульнай грашовай адзінкі Саюзнай дзяржавы ў 2003 годзе выступіў нават дзяржаўны сакратар гэтак званай Саюзнай дзяржавы Павел Барадзін. Зразумела, што агульная грашовая адзінка ў дадзеных варунках скончыць беларускую незалежнасць у адзін дзень. Але расійскія палітычныя і фінансавыя колы не надта цікавяцца эканамічнымі вынікамі гэтакай акцыі для беларускага боку. Аднак з драматычнымі наступствамі паспешлівасці не могуць не лічыцца беларускія палітыкі, эканамісты, банкіры.

15 сакавіка на сустрэчы з дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі старшыня праўлення Нацыянальнага банку Беларусі Пётр Пракаповіч, здаецца, упершыню адрэагаваў на думкі дзяржсакратара П.Барадзіна з неабходным пачуццём рэальнасці. «Гэтая заява ні на чым не грунтуецца», – сказаў П.Пракаповіч. На яго думку, увядзенне адзінай грашовай адзінкі для Расіі і Беларусі – «заключны этап інтэграцыі», магчымы пасля стварэння адзінай эканамічнай прасторы, уніфікацыі шэрагу заканадаўчых актаў. «Не зрабіўшы асноўнай працы, – заявіў Пётр Пракаповіч, – рабіць такія заявы несур'ёзна».

Тое, што агульная саюзная валюта будзе ўведзена і ў 2005 годзе, хоць гэта прадугледжваюць расійска-беларускія пагадненні, выклікае вялікія сумненні ў кіраўніка Нацбанку. «Мы даўно ўжо павінны былі стварыць роўныя ўмовы, – сказаў Пётр Пракаповіч, – але не стварылі ды іншых пытанняў не вырашылі». Пра парушэнне дамоўленых тэрмінаў выканання адзначанага пагаднення выказаўся таксама і старшыня сталай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі па банкаўскай дзейнасці Аляксей Ваганаў. «Чым меней у нас застаецца часу, тым болей шанцаў, што тэрміны пераходу на адзіную грашовую адзінку будуць працягнутыя», – зазначыў А.Ваганаў.

Паколькі не вырашана галоўнае пытанне – палітычнага размеркавання галоўных пасадаў для Беларусі і Расіі ў саюзнай дзяржаве, якая ствараецца, чакаць паспешлівасці ад Беларусі з вырашэннем пераходу на расійскія грошы не варта.

**Павел БАРАНОЎСКІ**

# Сельскагаспадарчы штаб

Падрыхтоўка да сяўбы пачалася з арганізацыі выязных паседжанняў адмысловага штабу на чале з віцэ-прэм'ерам Аляксандрам Папковым. Першае паседжанне адбылося ў Баранавічах, а на мінулым тыдні яго ўдзельнікі з'ехаліся ў Оршу. Аршанскае паседжанне было прысвечанае вынікам рэфармавання сельскай гаспадаркі.

Пабочнаму чалавеку цяжка зразумець, у прыватнасці, сэнс спрэчкі паміж Аляксандрам Папковым і старшынём Віцебскага аблвыканкаму Уладзімірам Андрэйчанкам. Яна тычылася памераў дзяржаўнага заказу на здачу сельскагаспадарчай прадукцыі. Уладзімір Андрэйчанка выказаў свой пратэст супраць даведзеных з Мінску лічбаў дзяржзаказу для Віцебскай вобласці, найніжэйшых у краіне. Логіка начальнікаў у тым, што, згодна з памерамі дзяржзаказу, з Мінску выдзяляецца фінансаванне, угнаенне і паліва. У выніку эмацыйнага выступу віцебскага вертыкальшчыка віцэ-прэм'ер загадаў міністру сельскай гаспадаркі Міхаілу Русаму павялічыць дзяржзаказ для Віцебскай вобласці.

Яшчэ адна модная цяпер тэма – аптымізацыя землекарыстання. У якасці станоўчага вопыту ў гэтым кірунку на паседжанні прыгадалі развядзенне аленяў на землях далучаных да камбінату «Цяплічны» былой аграфірмы «Дзвіна» ў Аршанскім раёне. Паводле выступу дырэктара камбіната Васіля Каваленкі, ён завёз у гаспадарку 5 аленяў, а з наваколльных лясоў да іх прыходзяць яшчэ 18, якія падкормліваюць адкідамі гародніны. Кіраўніцтва камбінату спадзяецца на вялікія прыбыткі ад продажу пантаў і арганізацыі платнага палявання на сваіх землях.

**Міхал ЧАРВІНСКІ**

# Заводы запускаюцца яшчэ марудней

Улада спрыяе выжыванню Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай. Рост запазычанасці па заробках на канец лютага склаў па народнай гаспадарцы 59,8 мільярда рублёў. У параўнанні са студзенем запазычанасць вырасла амаль у 2 разы.

Прастоі прадпрыемстваў балюча б'юць па кішэні кожнага працаўніка. А заводы працуюць ўсё горай: 13 сакавіка спыніў працу Мінскі падшыпнікавы завод, бо завінаваціўся за энергарэсурсы блізу 2 мільярдаў рублёў. За 5 дзён вымушанага прастою працоўныя атрымаюць, як і належыць па калектыўнай дамове: пагадзіннікі – 2/3 часткі заробку, здзельшчыкі – 3/4. Адміністрацыя прадпрыемства ліхаманкава шукае грошы на пагашэнне запазычанасці, паабяцаўшы працоўным аднавіць працу 18 сакавіка.

На два тыдні спыніў працу гродзенскі завод «Белкард», а працаўнікі адпраўленыя ў вымушаныя адпачынкі з прычыны перанасычанасці складоў гатовай прадукцыяй. Расійскія прадпрыемствы запусцілі ўласныя заводы па вырабе кардана́ў, таму расійскі рынак цяпер можа стацца недасягальным для гродзенцаў.

Увогуле, па словах прафсаюзнага лідэра Аляксандра Бухвостава, «гэта тэндэнцыя – спыняць працу». «Расія патрабуе зняць ільготы беларускім прадпрыемствам – а ў Беларусі амаль кожнае прадпрыемства мае нейкія льготы. Многія прадпрыемствы мелі датацыі, многія мелі магчымасць частку выручкі пакідаць у якасці абаротных сродкаў, а частку плаціць у бюджэт. Я мяркую, што найбліжэйшым часам беларускім прадпрыемствам будзе зусім кепска», – заявіў А.Бухвостаў.

**Рыгор БУЯН**

# Кампенсацыі для ахвяраў сталіншчыны

Сенат Чэшскай Рэспублікі разгледзеў праект Закону аб кампенсацыях ахвярам – грамадзянам Чэхаславакіі, вывезеным у СССР альбо ў працоўныя лагеры, пабудаваныя Савецкім Саюзам у іншых краінах. Гэты закон непасрэдна тычыцца беларусаў, украінцаў і рускіх, якія эмігравалі ў Чэхаславакію пасля рэвалюцыі.

Пасля перамогі савецкіх войскаў у Другой сусветнай вайне на тэрыторыі Чэхаславакіі пачалі дзейнічаць прадстаўнікі «Смершу» (спецыяльны аддзел НКУС «Смерць шпіёнам!»), якія затрымлівалі былых эмігрантаў і вывозілі ў Савецкі Саюз. Ахвяры сталінскіх рэпрэсіяў павінны былі працаваць у лагерах альбо былі сасланыя ў Сібір. Сярод такіх людзей аказаліся, напрыклад, генерал Вайцэхоўскі беларуская паходжання, знакамітая паэтка Ларыса Геніюш.

Згодна з праектам, ахвяра альбо яговыя родныя могуць атрымаць 12 тысячаў крон (больш за 400 даляраў) за кожны месяц ссылкі. Чакаецца, што закон падпішуць сёлета.

**Наталля МАКОВІК**

ДАКУМЕНТ

# Заява ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»



Прысуд злачыннай бандзе былога «алмазаўца» В.Ігнатовіча, вынесены 14 сакавіка 2002 г. Мінскім абласным судом, так і не даў адказу на галоўнае пытанне: што здарылася 7 ліпеня 2000 году з нашым калегам, сябрам Беларускай асацыяцыі журналістаў Дзмітрыем Завадскім, дзе ён?

Сярод злачынстваў, якія здзейсніла банда Ігнатовіча, выкраданне журналіста Дзмітрыя Завадскага фактычна засталося не даказаным ні папярэднім следствам, ні ў працэсе судовага разбіральніцтва. Няма ніякіх доказаў, нават «шчырага прызнання» В.Ігнатовіча ды іхных саўдзельнікаў у іх дачыненасці да выкрадання Д.Завадскага.

Паседжанне Мінаблсуду праходзіла за зачыненымі дзвярыма, што не дазволіла ўдзельнічаць або прысутнічаць на ім прадстаўнікам БАЖу, іншых грамадскіх арганізацыяў і стала адной з падставаў, што выклікала сумневы ў аб'ектыўнасці і ўсебаковасці судовага разбіральніцтва.

Не аспрэчваючы ў цэлым абгрунтаванасці прысуду па крымінальнай справе групы В.Ігнатовіча, мы, аднак, лічым, што абвінавачваць іх у выкраданні Дзмітрыя Завадскага не было дастатковых падставаў. Такім чынам, таямніца знікнення нашага калегі і яго далейшы лёс засталіся нявысветленымі.

Заходзячы з гэтага, БАЖ пакідае за сабою права патрабаваць ад Пракуратуры Рэспублікі Беларусь прыняць рашэнне і выдзеліць эпізод выкрадання Дзмітрыя Завадскага з крымінальнай справы групы В.Ігнатовіча ў асобную справу з мэтай правядзення дадатковага ўсебаковага і аб'ектыўнага расследавання.

**15 сакавіка 2002 г.**
**Праўленне ГА «БАЖ»**

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014






# Аўстрыйскі адпачынак

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Абсалютна ўсё для выканання таемных жаданняў нашых гасцей: ад камфартабельных



спальняў на аднаго да нашых выдатна абсталяваных апартаментаў «люкс». Унікальныя шыкоўныя апартаменты з крышталёвай ваннай – гэта наш казачны антураж для 1 000 і адной чароўнай ночы адпачынку. Не толькі для каранаваных асобаў...»

Турыстычныя праспекты паведамляюць, што ў Зіфельд раней прыязджалі імператары і каралі – на паляванні. Тады *Klosterbrau* быў яшчэ не гатэлем, а манастыром. Яго пабудавалі ў 1516 годзе.

Цяпер *Klosterbrau* – адзін з самых вядомых гатэляў у рэгіёне. Ён славуты найперш тым, што тут можна адпачыць «на шырокую нагу». Па-другое, у гатэлі ёсць усё для правядзення сур'ёзных бізнес-сустрэчаў, семінараў – самыя сучасныя, добра абсталяваныя канферэнц-залы. Усяго тут працуе больш за 160 чалавек абслугі.

Адначасова ў *Klosterbrau* можа жыць да 180 чалавек. Гэта значыць, што на кожнага жыхара прыходзіцца ў сярэднім па адным чалавеку абслугі.

## Каралеўскія апартаменты

У гатэлі ўсяго 20 нумароў «люкс», з іх адзін – «каралеўскі». Ён так і называецца – *Suite Royal*. Паводле прэйскуранту, кожны дзень пражывання ў такім нумары каштуе 780 еўра. За 10 дзён адпачынку набіраецца 7 800 еўра, або 7 тысяч даляраў.

Але нумар ніколі не пустуе: менеджэр Надзя, якая займаецца рэзерваваннем нумароў у гатэлі, распавяла нам, што найбліжэйшым часам зарэзерваваць нумар можна будзе толькі з сённяшняга дня і да 23 сакавіка. Пасля ён будзе надоўга заняты.

Надзя паспрабавала апісаць нам абстаноўку *Suite Royal*: «Выдатны пакой. Там усё ёсць – вялікая ванна, шыкоўная прыбіральня, першакласны ложак у багата абсталяванай спальні, прасторны салон для прыёму візіцёраў, тэлевізар са спадарожнікавай антэнай, месца для размяшчэння іншых людзей» (адначасова ў апартаментах можа жыць да 4 чалавек). На адным паверсе з *Suite Royal* можна размясціць яшчэ каля 20-25 чалавек. Але не ўсе пакоі цяпер вольныя. Таму, хто пажадае зняць цэлы паверх, давядзецца пачакаць.

Разам з А.Лукашэнкам у гатэлі жыве «невялікая колькасць людзей». Трэба разумець, гэта свая абслуга, медычны персанал, дарадцы, ахоўнікі. Натуральна, што для іх падрыхтаваныя таннейшыя нумары. Але гэта таксама 150-200 даляраў у дзень для кожнага.

## Рай для адпачынку

Як можна бавіць час у Зіфельдзе? Паводле сайту гатэлю, у гатэлі ёсць усё для шыкоўнага адпачынку. Надзя распавяла нам, што ў гатэлі – тры рэстарацыі, дзе можна пакаштаваць страў самых розных кухняў. Кулінарныя традыцыі рэстаранаў *Klosterhof* і *Ritter-Oswald-Stube* былі адзначаныя дзвюма прэміямі *Gault*



*Millau*. Тут можна замовіць і марскія далікатэсы, і традыцыйныя цірольскія прысмакі. Да іх пададуць старое віно на ваш густ – вінаробствам тут займаюцца ўжо 500 гадоў, і ў склепах гатэлю больш за 20 000 бутэлек гэтага добра вытрыманага напою.

Калі хаджэнне па рэстарацыях надакучыць, тут ёсць цудоўная магчымасць падправіць свой вонкавы выгляд і здароўе. Салон прыгажосці, ванны, саўна, фітнэс-цэнтр, масаж, джакузі – усё гэта ў *Klosterbrau* пяшчотна называюць Аазісам прыгажосці і камфорту. Тут



можна атрымаць касметычнае лячэнне.

Увечары і ўначы можна пацешыць свой слых жывой музыкай, якая будзе гучаць на пляцоўцы гатэлю да самай раніцы. Найлепшыя аркестры і «першакласныя» выканаўцы часта выступаюць на сцэне *Klosterbrau*. Тут гучыць музыка на любы густ: класіка, рок і поп 70-х і 80-х, хіты апошніх гадоў. У свой час тут выступалі Альбана Карысі і Майкл Джэксан, Андрэа Бачэлі і Ванэса Мэй.

Літаральна ў двух кроках ад гатэлю знаходзіцца казіно. Проста ад дзвярэй гатэлю вас могуць адвезці на лыжную трасу і да чыгуначнага вакзалу.

Карацей, плаці – і атрымаеш нечалавечае задавальненне.

## Самалёт напагатове

Тым часам, прэзідэнцкі самалёт чакае кіраўніка Беларусі ў Венскім міжнародным аэрапорце. Гэта нам пацвердзілі супрацоўнікі аэрапорту. Мы папыталіся, колькі гэта можа каштаваць нашаму бюджэту.

Па словах супрацоўніка інфармацыйнай службы, адно прызямленне самалёта каштуе 1 125 еўра. За выкарыстанне ўзлётна-пасадачнай паласы ідзе аплата ў памеры 327 еўра. Паркоўка самалёта каштуе 112 еўра ў дзень. На жаль, мы не даведаліся пра кошты тэхнічнага абслугоўвання, запраўкі, а таксама пражывання лётчыкаў і абслугі ў гатэлі, што пры Венскім аэрапорце. Аднак цалкам набягае сума не меней за 5-10 тысячаў еўра.

## Адпачывай і зарабляй

Як паведаміла прэс-служба прэзідэнта Беларусі, у чацвер адбыўся хакейны матч паміж «Зборнай прэзідэнта Беларусі» і ветэранамі аўстрыйскага хакею. Матч, які прайшоў у горадзе Інсбрук – сталіцы зямлі Ціроль – быў дабрачынны: увесь прыбытак ад яго, па словах прэс-сакратаркі Наталлі Пяткевіч, пойдзе на дзяцей Чарнобыля, а менавіта – Дзіцячаму рэабілітацыйна-аздараўленчаму цэнтру «Сядзельнікі» Мазырскага раёну.

Карэспандэнт радыё «Свабода» даведаўся ў супрацоўніка беларускай амбасады ў Аўстрыі спадара Гіры, што дабрачынным хакейным матчам зароблена каля 10 тысячаў даляраў: гэта квіткі на матч, а таксама дапамога Аўстрыйскага алімпійскага камітэту. Пазней Беларускае тэлебачанне ўдакладніла лічбу – 12 тысячаў еўра (гэта 10,5 тысячаў даляраў). Яно ж парадавала беларусаў чарговай хакейнай перамогай – з лікам 7:5 «Зборная прэзідэнта» перамагла аўстрыякаў, прычым дзве шайбы закінуў сам А.Лукашэнка.

Што да ягоных паплечнікаў па лядовай дружыне, то, па словах сп. Гіры, гэта былі «ветэраны беларускага спорту».

Невядома, ці прыехалі яны разам з А.Лукашэнкам, ці ехалі звычайным рэйсам. Але відавочна, што адпачынак кіраўніка дзяржавы каштаваў значна болей, чым ён зарабіў праз сваё ўменне трымаць клюшку ў руках.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**




# Лукашэнка катаецца на лыжах і гуляе ў хакей

У аўстрыйскім горадзе Інсбрук лепш бываць летам. У самім горадзе – лета, а ў гарах, якія атачаюць яго, – вясна ў сярэдняй частцы і сапраўдная зіма на вяршынях. Я быў там у траўні 2000 году, пасля чаго лічу Інсбрук найлепшым горадам Аўстрыі – лепшым за Вену і Зальцбург. У Інсбруку двойчы – у 1964 і 1976 гадах – праходзілі зімовыя Алімпійскія гульні. Тут жа знаходзіцца штаб-кватэра аўстрыйскай федэрацыі лыжнага спорту, генеральны сакратар якой Клаус Лейстнер у інтэрв'ю «Ю.С.Ньюс» падзяліўся ўражаннямі ад сустрэчы з Аляксандрам Лукашэнкам:

– Па-першае, мы разам абедалі, а па-другое, мы правялі дзень, разам катаючыся на лыжах. З гэтай нагоды мы абмеркавалі супрацоўніцтва ў галіне гарналыжнага спорту ў Беларусі і, вядома ж, у Аўстрыі. Мы таксама абмеркавалі справы хакею ды іншыя рэчы. Спадар Лукашэнка быў зацікаўлены ў пашырэнні гарналыжнага спорту ў Беларусі.

***– Спадар Лейстнер, які гарналыжны спорт можа быць у Беларусі, дзе няма гор?***

– Можа вы ведаеце, што аўстрыйская федэрацыя лыжнага спорту падтрымлівае беларускую федэрацыю лыжнага спорту і сноўборду цягам апошніх двух гадоў. Мы ўсталёўвалі пад'ёмнік у Раўбічах.

***– Якім жа гарналыжнікам паказаў сябе ў Аўстрыі прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэту Беларусі?***

– Па-першае, яму гэта вельмі спадабалася. Па-другое, магу сказаць, што ён спрабаваў гэта толькі пару дзён і выглядаў прыстойна. Ён спартовец, займаецца звычайнымі лыжамі ды гуляе ў хакей, ягоны фізічны стан вельмі добры, ён ведае, як рухацца, – таму ён вельмі добра катаўся і на горных лыжах.

***– Ці былі вы на ўчорашнім хакейным матчы з удзелам Аляксандра Лукашэнкі?***

– Так, мы былі. Я бачыў, як ён забіў першы гол. Сп.Лукашэнка выглядае як хакеіст з сур'ёзнай падрыхтоўкай.

***– А ў якім статусе знаходзіцца Аляксандр Лукашэнка ў Аўстрыі – ці сапраўды толькі як прэзідэнт НАК?***

– Я не ведаю, але цалкам магчыма, што толькі як прэзі-



дэнт камітэту. Мяркую так таму, што гэта быў, наколькі я ведаю, прыватны візіт.

***– Спадар Лейстнер, скажыце, калі ласка, колькі каштуе для замежнага турыста пакатацца на лыжах у наваколлі Інсбрука?***

– Не пытайцеся ў мяне. Я жыву ў Аўстрыі. Я не магу прывесці прыклады цэнаў, таму што тут ёсць шырокі спектар. Аўстрыя, у параўнанні са Швейцарыяй ці іншымі краінамі, мае адносна памяркоўны ўзровень цэнаў на ўсё пры досыць высокім узроўні абслугоўвання, таму яе можна рэкамендаваць турыстам. Шмат краінаў, улучна з Беларуссю, хацелі б паспрабаваць супрацоўнічаць, і я думаю, калі мы распачнем тыя праекты, што абмяркоўвалі, ад гэтага выйграюць абодва бакі. Меркаванне Клаўса Лейстнера пра адносную таннасць Аўстрыі не падзяляе супрацоўніца інфармацыйнага бюро гарналыжнага курорту Зіфельд, на якім адпачывае Аляксандр Лукашэнка.

«Сказаць папраўдзе, тут дорага», – зазначыла яна, папрасіўшы не згадваць ейнага прозвішча.

На які мінімум трэба разлічваць турысту, які захоча пакатацца на горных лыжах у Зіфельдзе? Лыжны пропуск на суткі, які дзейнічае на ўсіх пад'ёмніках у Зіфельдзе, каштуе 26 еўра, а лыжнае абсталяванне – каля 10 еўра. Такім чынам, падсумавала супрацоўніца турбюро, гарналыжніку ў Зіфельдзе трэба мець каля 40 еўра на кожны дзень. «Аднак гэта мінімум», – падкрэслівае яна.

Я запытаў жыхарку аўстрыйскага курорту, ці бачыла яна Аляксандра Лукашэнку на лыжах. «Не, я бачыла, як ён гуляе ў хакей. Ён займаўся нейкай трэніроўкай. І там я пабачыла яго, непасрэдна ў Зіфельдзе», – расказала супрацоўніца мясцовага турбюро і дадала, што ў гэтым гарадку ёсць дзве ледзявыя пляцоўкі: «Мой муж ахоўваў адну з пляцовак, таму што ён выконваў абавязкі дзеля пэўных персонаў, якія гулялі са спадаром ЛУШЭНКАМ».

Такім чынам, прозвішча Лукашэнкі, хаця і ў няправільным варыянце, стала вядомае на аўстрыйскім гарналыжным курорце. Захаваць інкогніта яму не ўдалося.

**Юры СВІРКО,**
**агенцтва «Ю.С.Ньюс»**

ДАРЭЧЫ

# Сакрэтныя ўклады ў Аўстрыі

Пра тое, што швейцарскія банкі – самыя надзейныя ў свеце – ведаюць усе ледзь не з трохгадовага ўзросту. «Трымайце грошы ў швейцарскім банку» – такую «параду» можна пачуць і ад эканамістаў з дзвюма вышэйшымі адукацыямі, і ад бабулі-пенсіянеркі. Аднак прафесіяналы ведаюць, што ў пэўных умовах уклад у адным з банкаў Аўстрыі гарантуе і большую ананімнасць, і самую надзейную гарантыю, што грошы не патрапяць у чужыя рукі.

Адмыслоўцы адзначаюць, што ў Аўстрыі – поруч са Швейцарыяй і Люксембургам – самае жорсткае ў свеце заканадаўства аб банкаўскай таямніцы. Адкрыўшы ананімны рахунак у Аўстрыі, можна быць спакойным, што да яго не дабяруцца ніякі падатковы паліцэйскі.

Эканоміка Аўстрыі пачала хутка развівацца пасля 1956 году, калі дзяржава адмовілася ад жорсткага рэгулявання банкаўскага рынку і адмяніла ўсе абмежаванні на хаджэнне ў краіне замежных валютаў.

Банкі займаюць пачэснае месца не толькі ў эканоміцы краіны. Былы дырэктар банку *Creditanstalt* Франц Враніцкі ў 1986 годзе стаў канцлерам Аўстрыі. Усяго ў краіне каля 800 банкаў і 1 000 іхных аддзяленняў.

У Аўстрыі – вельмі высокі ўзровень жыцця. Банкі тут квітнеюць, бо грамадзяне ахвотна захоўваюць грошы на рахунках.

Да апошняга часу вялікай папулярнасцю тут карысталіся ўклады па «шпарбухах» – такія нумарныя ашчадныя кніжкі на прад'яўляльніка. Як сведчаць даследаванні, на аўстрыйскіх «шпарбухах» захоўваюцца ўклады агульным памерам у дзесяткі мільёнаў даляраў.

Для адкрыцця такога рахунку дастаткова было прыйсці ў банк з пашпартам. Але пры неабходнасці можна ўсе дакументы адправіць па факсе. У момант адкрыцця «шпарбуху» прыдумлялі пароль – слова, карыстаючыся якім можна ажыццяўляць аперацыі па рахунку: пераводзіць грошы або знімаць іх. Анкета ўладальніка рахунку разам з паролем захоўваецца ў цэнтральным офісе банку. Доступ да іх маюць толькі 2-3 асобы.

Пры правядзенні аперацыі з рахункам неабходна паказаць нумарную ашчадную кніжку і напісаць пароль. Пасля гэтага вы лічыцеся ўладальнікам рахунку і можаце праводзіць любыя аперацыі – ніякіх іменаў непатрэбна. Таму за вас гэта можа рабіць даверная асоба. Ашчадныя кніжкі можна перадаваць любому іншаму чалавеку. І ён зможа карыстацца гэтым рахункам – вядома, калі будзе ведаць пароль.

Што да магчымасці адкрыць




імя ўладальніка ананімнага рахунку, то ніякі суд у Аўстрыі не можа гэтага зрабіць. Толькі Міністэрства фінансаў мае права загадаць банку парушыць таямніцу рахунку. І гэта робіцца вельмі рэдка –1-2 выпадкі ў год. Для парушэння банкаўскай таямніцы Мінфіну трэба прадставіць неабвержныя доказы таго, што грошы кліента – «крымінальныя» і зароблены на незаконным гандлі зброяй і наркотыкамі або на прастытуцыі.

Ананімныя рахункі ў Аўстрыі вельмі раздражнялі еўрапейскіх барацьбітоў з карупцыяй. Але ў адказ аўстрыйскія фінансісты тлумачылі, што краіне адмаўляцца ад «шпарбухаў» нявыгадна – бо інакш банкаўская сістэма можа не вытрымаць выцекаў капіталу. А некаторыя дадавалі, што менавіта дзякуючы ананімным рахункам большасць аўстрыйскіх грамадзянаў не баіцца захоўваць накапленні на радзіме і рэгулярна плаціць падаткі.

Тым не менш, у 2001 годзе па патрабаванні арганізацыі *FATF* (*Financial Action Task Force*), якая змагаецца з адмыццём «брудных» грошай, аўстрыйскі ўрад летась забараніў адкрыццё рахункаў на прад'яўляльніка. Але калі хто паспеў адкрыць такі рахунак, то можа і надалей карыстацца ўсімі выгадамі ананімнасці.

Калі няма патрэбы аператыўна знімаць грошы на свае штодзённыя выдаткі, банк, дзе адкрыты «шпарбух», можна не наведваць па некалькі гадоў. І можна завітаць у любое ягонае аддзяленне, толькі каб даведацца – у якім там стане рахунак, ці своечасова паступаюць грошы і колькі ўжо адсоткаў «накапала» за гэты час – ці хопіць на шчаслівую старасць?

**Ірына СТАРЦАВА**

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# Выбар Мефістофеля

## У Аўстрыі Лукашэнка вырашаў праблему «расійскага ціску»

*Зусім нечакана Лукашэнка знікае на дзесяць дзён з вялікай беларускай палітыкі. Зусім нечакана ён апынаецца ў аўстрыйскім гарналыжным курорце Інсбруку. Зусім нечакана высвятляецца, што Лукашэнка вандруе па Аўстрыі як прыватная асоба.*

Вельмі здзіўляе і насцярожвае разгубленасць, з якой іншыя службовыя асобы каментуюць ад'езд прэзідэнта ў Аўстрыю. Такое ўражанне, што А.Р. і насамрэч нікога са свайго атачэння не ставіў у вядомасць адносна «вакацыйных» намераў. Запахла вя-ялікай інтрыгай. Але якой менавіта?

### Кесару кесарава?

Еўропа нечакана даведалася, што Лукашэнка – не проста прэзідэнт суверэннай дзяржавы з некаторым аўтарытарным флёрам. Хутчэй А.Р. сёння пазіцыянуе сябе ў якасці слушнай і ўплывовай VIP-асобы (а прэзідэнцтва толькі дадатны штрых), якая мае неабмежаваныя фінансавыя рэсурсы для аплаты асабістых прыхамацяў. Мякка кажучы, раскоша, з якой Лукашэнка адпачывае ў Інсбруку, здзіўляе.

Зрэшты, сам сабою факт прэзідэнцкага адпачынку, хай спярша хаваўся ад грамадскасці, але не вымагае якой-кольвек вострай рэакцыі. Любы чыноўнік мае права на адпачынак. Тым болей прэзідэнт, які адыграў надоечы выбарную працэдуру. Не павінна нас асабліва непакоіць і даўняя наменклатурная традыцыя хаваць усё ад грамадскай думкі. Менавіта таму лічыцца непрыстойным публічна здаваць справы ў тым, як дорага абыходзіцца асабістае жыццё топменеджэраў (чытай – «служка народу») мясцоваму падаткаплатніку.

Аднак калі на самім факце «адпачынкавай» дзесяцідзёнкі прэзідэнта няма нічога асаблівага, то вось ***месца і час,*** што выбраў А.Р. для гэтага, усё-такі патрабуюць грунтоўнага каментару. Зразумела, што ў цяперашнім жыцці Лукашэнкі не бывае выпадковасцяў. І наўрад ці А.Р. можа пахваліцца тым, што пасля выбараў 2001 году яму стала жыць лягчэй і весялей. Якраз наадварот. Праблемы растуць, як снегавы ком. І праблемы гэтыя звязаныя, хутчэй, з шматлікімі ценявымі сувязямі Аляксандра Рыгоравіча.

І ўсё ж такі, чаму менавіта аўстрыйскі курорт? І чаму, уласна, сёння? У Інсбруку вельмі шмат элітных гатэляў і рэстарацыяў, што добрасумленна ахоўваюцца ад вока надта цікаўных журналістаў. Інсбрук, апроч таго, улюбёнае месца «дзелавога адпачынку» еўрапейскіх бізнес- і палітычнай эліты. Дзелавы адпачынак – гэта калі важныя праблемы вырашаюцца ў нефармальнай абстаноўцы. У Інсбруку часцяком праходзяць сакрэтныя перамовы, якія з незвычайнай лёгкасцю маскуюцца пад ненавязлівы адпачын VIP-асобаў. Цалкам можна меркаваць, што і Аляксандр Лукашэнка паспрабаваў скарыстаць агульнапрынятай у VIP-Еўропе практыкай і правесці шэраг асабістых сустрэчаў, замаскаваўшыся пад турыста. Варта таксама ўлічыць такі факт: візу на выезд з Беларусі Лукашэнка атрымаў не без дапамогі нямецкіх дыпламатаў. А гэта ўжо можна разглядаць як фактар вялікай еўрапейскай палітыкі. Агульнае стаўленне да Лукашэнкі ў Еўропе гранічна негатыўнае. Значыць, без палітычнага рашэння, дазволу на канфідэнцыйную паездку ў Аўстрыю А.Р. наўрад ці атрымаў бы. Мімаходам адзначым, што сёння якраз немцы настойваюць на пэўным змяненні кансалідаванай пазіцыі Еўрасаюзу ў адносінах да Беларусі. Актыўнасць нямецкага боку нельга ацэньваць толькі негатыўна. З аднаго боку, адносіны Еўропы і Беларусі відавочна патрабуюць абнаўлення. Бо ж беларускі адміністрацыйны апарат, які кантралюе долю мясцовых рэсурсаў, слаба падпадае пад просты палітычна-эканамічны ціск і сітуацыя працягвае пагаршацца. З іншага боку, немцы як раней спрабуюць замацаваць сваю дамінантную прысутнасць і ўплыў у шэрагу стратэгічна перспектыўных усходне-еўрапейскіх дзяржаваў. У прыватнасці, нямецкая дыпламатыя і бізнес актыўна працуюць супраць расійскіх калегаў на традыцыйных для расійцаў усходне-еўрапейскіх рынках уплыву. Перш за ўсё размова пра Польшчу, якая сёння – ледзь не найбліжэйшая саюзніца Германіі. І пра Беларусь, якая ў сваю чаргу, шчыльна залежыць ад саюзу з Расіяй.

### Гіпертанія

Жыве аўтарытэтная думка, што Лукашэнка выправіўся ў Аўстрыю выключна за кошт «боку, які прымае». Менавіта таму грошай на «дробязныя выдаткі» прэзідэнта ніхто не лічыць. 800 еўра ў дзень за апартаменты – калі ласка. Гэта ж чужыя грошы. Таму куды больш важна імкнуцца атрымаць адказ на іншае пытанне. А чые ж менавіта грошы так ахвотна траціць Аляксандр Рыгоравіч у Аўстрыі? Хто і на што запрасіў Лукашэнку ў Інсбрук?

Наколькі нам вядома, вакацыі з лыжамі і ветэранскім хакеем – гэта і насамрэч добра зрэжысіраваная байка. Міф-прыкрыццё, так бы мовіць. У Інсбруку Лукашэнка ўпершыню за апошнія шэсць гадоў правёў шэраг канфідэнцыйных сустрэчаў з прадстаўнікамі легальнага замежнага бізнесу. Асабліва падкрэслім слова легальнага. Ясна, што для Лукашэнкі і для прадстаўнікоў, па нашых дадзеных, нямецкага бізнесу «інсбрукскія рандэву» мелі пэўную стратэгічную вартасць.

Лукашэнка сёння знаходзіцца пад досыць вялікім ценявым ціскам расійскай палітычнай і справавой эліты. Для Аляксандра Рыгоравіча і на самой справе надышлі чорныя часы. Як вядома, падчас мінулай выбарчай кампаніі словаахвотны беларускі прэзідэнт (па сумяшчальніцтве – кандыдат у прэзідэнты) каму толькі чаго ні абяцаў. Буйныя расійскія ФПГ, найперш сыравінныя, паверылі абяцанкам мясцовага лідэра і ўжо паспелі ўбудаваць беларускія прадпрыемствы і ў асабістыя бізнес-планы развіцця, і нават у перспектыўныя тэхналагічныя ланцугі. Паспелі яны таксама вылічыць прырост даходнасці собскага бізнесу ў сувязі з галіновай інтэграцыяй. А размова ў гэтым выпадку ідзе пра атрыманне соценъ мільёнаў даляраў у найбліжэйшыя пяць-сем гадоў «супольнай» працы.

Лукашэнка, натуральна, толькі палітык, але ніяк не бізнесмен. Ён мяркуе, што слова не абавязкова вымагае справы. Слова – яно, на думку Лукашэнкі, і ёсць слова. Даў слова – забраў слова. Для А.Р. у гэтым няма нічога заганнага. Слоўная лёгкасць Лукашэнкі нарадзіла цэлую касту сур'ёзна абражаных у Беларусі расійскіх кампаній. Некалькі месяцаў таму расійскі бізнес, які ўвесь час выказваў цікавасць да шэрагу профільных беларускіх прадпрыемстваў, нарэшце здолеў заняць кансалідаваную пазіцыю ў дачыненні да Лукашэнкі. Правалы *«Итеры», «Сургутнефтегаза», «Лукойла», «Балтики» etc* толькі пагрэлі сітуацыю. І вось ужо прадстаўнікі бізнесу праз собскае лобі жорстка атакуюць Крэмль, паклікаючы вырашыць-такі «праблему Лукашэнкі». Зразумела, што Крэмль цяпер як раней залежыць ад грошай сваіх жа ФПГ. Тым болей што парламенцка-прэзідэнцкія выбары ў Расіі ўжо не за гарамі. Такім чынам, можна канстатаваць, што інтарэсы Крамля і расійскі бізнес у Беларусі пачынаюць супадаць. Пытанне ў тым, як менавіта Расія намерваецца вырашаць праблему «бізнес-неабавязанасці» Лукашэнкі. Адзначым таксама, што некаторы час даўней расійскую Гандлёва-прамысловую палату ачоліў вядомы нам Яўгеній Прымакоў. Яўгеній Максімавіч заўсёды лічыўся ледзь не адзіным расійскім палітычным цяжкавагавіком, які забяспечваў моцнае кулуарнае прыкрыццё Лукашэнкі. А Гандлёва-прамысловая палата, побач з Расійскім Саюзам прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў (Аркадзя Вольскага) – найбольш уплывовыя лобі-структуры расійскага бізнесу. Магчыма, у Прымакова і ўзнік некаторы канфлікт перавагаў. Але па нашых звестках, гэты канфлікт развязаўся, натуральна, на карысць расійскага кіраўніцтва. Прымакоў правільна ацаніў цяперашнюю палітычную каньюнктуру.

Парадаксальна, але сёння менавіта Прымакоў, хай і негалосна, спрабуе забяспечваць сінхранізацыю ценявага ціску на Лукашэнку. Можа стацца, што сам А.Р. пакуль нічога і не разумее, хто і як з расійскіх топменеджэраў гуляе супраць яго. Але дакладна Лукашэнка інтуіцыйна ўжо зразумеў, што пачынаецца самая небяспечная гульня ў ягоным жыцці. Застаўшыся адзін на адзін з рэсурсна магутнымі расійскімі кампаніямі, Лукашэнка адчувае страх. Менавіта таму ён настолькі адкрыта і хутка імкнецца забяспечыць сябе ценявымі сувязямі. Беларускі лідэр доўга і настойліва дабіваўся магчымасці кулуарнага кантакту з нерасійскімі бізнесменамі. Яму патрэбная ўраўнаважаная сістэма. Бо А.Р. заўсёды славіўся ўменнем сутыкаць інтарэсы розных кампаніяў. Ён прывык гуляць на супярэчнасцях і на адсутнасці праўдзівай інфармацыі пра свае намеры ў патэнцыйных партнёраў.

Але да апошняга часу не было добрай аказіі для таго каб Лукашэнка, нарэшце, выйшаў за межы адносінаў з расійскім бізнесам. І раптам Лукашэнка атрымлівае візу для паездкі ў Інсбрук. На час гэтай паездкі бок, які запрасіў, і забяспечыў беларускага прэзідэнта шэрагам закрытых бізнес-ланчаў.



### Уплыў (у перспектыве)

На першы погляд, нямецкаму бізнесу няма што рабіць у Беларусі. І тым болей ягоным прадстаўнікам няма як прыватна дамаўляцца з Лукашэнкам. Гэта калі спрабаваць ацаніць цяперашнія стасункі Лукашэнкі і нямецкага бізнесу выключна ў катэгорыях дэмакратычных і свабодна-рыначных каштоўнасцяў. У гэтым сэнсе немцы, канечне ж, не хочуць інвеставаць грошы ні ў беларускую эканоміку, ні асабіста ў спадара Лукашэнку. Але ў дадзеным выпадку размова ідзе пра непамерна больш вялікі аб'ект гандлю, чым проста эканоміка Беларусі ці будучыня Лукашэнкі.

Апошнія дзесяць гадоў немцаў надта сур'ёзна непакоіць кулуарнае супрацьстаянне расійскаму бізнесу. У ходу запусцілі ўсю магчымую «зброю» – ад ураднага пратэкцыянізму да ўдзелу ў капітале расійскіх кампаній.

Але ў дадзеным выпадку нямецкі бок – у прыватнасці «Ругаз» – хоча больш сур'ёзна ўплываць на Беларусь з адной простай прычыны. Калі ўплыў Германіі на Беларусь апынецца сувымерным нямецкаму ўплыву на Польшчу, можна будзе казаць пра паспяховае завяршэнне будаўніцтва так званага «энергетычнага калідору» ў Еўропу. А гэта азначае, што менавіта Германія атрымае істотныя козыры для забеспячэння ціску не столькі на Расію, колькі на ўсю негерманскую частку Еўропы.

Апроч іншага, немцы вельмі добра ўяўляюць сабе, у наколькі складаным становішчы апынуўся цяперака беларускі прэзідэнт. І здарылася гэта не ў выніку кансалідаванага ціску Еўрасаюзу на Беларусь у сувязі з парушэннямі правоў чалавека. А толькі праз нежаданне А.Р. выконваць узятыя на сябе абавязанні перад расійскім бізнесам. Уся справа ў расійскіх грашах, якія, як прыйшлі б у Беларусь, рэзка абмежавалі б уплыў А.Р. на сітуацыю. Таму Лукашэнка і гатовы дамовіцца. У той жа час нямецкія эксперты разумеюць, што сёння Лукашэнка кантралюе тэрыторыю Беларусі на 100%. Значыць і дамаўляцца трэба толькі з ім і менавіта цяпер.

Шчыра кажучы, у апошнія 10 гадоў у кулуарных стасунках Расіі і Беларусі і ў пэўным сэнсе Германіі адбыліся кардынальныя змены. Ва ўсякім разе, Лукашэнка спрабуе з прадстаўнікоў нямецкага бізнесу зрабіць аператараў і пасярэднікаў на сваіх перамовах з патэнцыйнымі расійскімі інвестарамі. Г.зн. з той расійскай элітай, якой надта многа абяцаў цягам апошняга году.

«Аўстрыйская дзесяцідзёнка» Лукашэнкі дазваляе нам зрабіць дзве фундаментальныя высновы. Па-першае, мясцовыя эліты, так ці інакш зацікаўленыя ў развіцці больш шчыльных адносінаў з расійскім бізнесам, выразна адчулі, што Лукашэнка спрабуе гуляць выключна ў сваю гульню. Пры гэтым А.Р. зусім не ўлічвае стратэгічныя інтарэсы мясцовай наменклатуры і расійскіх бізнесменаў. Для беларускай наменклатуры (гаспадарчай і ўпраўленчай) гэта азначае толькі адно – а менавіта: страту любога ўплыву на сітуацыю не толькі сёння (гэтага ўплыву і так было не надта), але і ў постлукашэнкаўскай перспектыве. Па-другое, расійскія кампаніі – асабліва *«Сургутнефтегаз»* і *«Лукойл»* – спрабавалі самастойна забяспечваць ціск на Лукашэнку цягам апошніх паўтара году. Не атрымалася. Цяпер жа прыйшло разуменне, што без падлучэння палітычных рэсурсаў Крамля інтарэсы расійскага бізнесу ў Беларусі ўвесь час будуць знаходзіцца пад вялікай пагрозай.

Дарэчы, цяперашняя аўстрыйская паездка не першая спроба Лукашэнкі дагрукацца да замежнай эліты. А.Р. ужо мае досвед такіх сакрэтных перамоваў. У далёкім 1995 годзе, тады яшчэ малавядомы шырокай публіцы Лукашэнка быў заангажаваны ў шэраг сустрэчаў ува ўплывовых бізнес-клубах... ЗША. Амерыканцы хацелі зразумець, ці можна рабіць стаўку на юнага беларускага прэзідэнта. Аказалася, нельга. І час выдатна пацвярджае іх правату. А што ж на гэты конт думаюць уплывовыя нямецкія бізнесмены?

**Уладзімір ВАЛАНІН**

АФІЦЫЙНА

# «Проста цудоўнае здароўе»

Прэс-сакратарка прэзідэнта Наталля Пяткевіч абвергла чуткі аб хваробе Аляксандра Лукашэнкі.

Як паведамляе прэс-служба прэзідэнта Беларусі, Н.Пяткевіч у інтэрв'ю агенцтву «Інтэрфакс» заявіла: «Здароўе Аляксандра Рыгоравіча проста цудоўнае. Ён знаходзіцца ў выдатнай форме».

«Гэта першы адпачынак прэзідэнта за сем гадоў ягонага знаходжання ля руля дзяржавы», – сказала Пяткевіч. Яна паведаміла, што прэзідэнт актыўна займаецца спортам, а таксама правёў некалькі «выніковых перамоў» з прадстаўнікамі дзелавых і спартовых колаў Аўстрыі і, нягледзячы на адпачынак, працягвае выконваць свае прэзідэнцкія функцыі па кіраванні краінай.

А.Лукашэнка, паводле словаў Н.Пяткевіч, правёў сустрэчу з кіраўніцтвам Федэральнай палаты эканомікі Аўстрыі, падчас якой абмяркоўваліся пытанні мэтазгоднасці ўступлення Беларусі ў Гандлёва-прамысловую палату Еўрасаюзу.

Як сказала Пяткевіч, кіраўнік Беларусі сустрэўся з прэзідэнтам Аўстрыйскага алімпійскага камітэту. З прадстаўнікамі дзелавых колаў, паводле слоў прэс-сакратаркі, абмяркоўваліся пытанні арганізацыі ў Беларусі вытворчасці спартовага рыштунку, дасягнута дамоўленасць на будаўніцтва пад ключ гарналыжнага комплексу ў Раўбічах пад Мінскам.

Ад прадстаўнікоў Аўстрыі паступіла прапанова «падцягнуць узровень хакею ў гэтай краіне» коштам частковага абмену хакеістамі са зборнай Беларусі, сказала Н.Пяткевіч. Яна адзначыла, што падставай для гэтай прапановы стала паспяховае выступленне беларускіх хакеістаў на Алімпіядзе ў Солт-Лэйк-Сіці, дзе яны занялі 4-е месца.

Паводле слоў Н.Пяткевіч, кіраўніка беларускай дзяржавы, які адначасова з'яўляецца прэзідэнтам Нацыянальнага алімпійскага камітэту, зацікавіла схема функцыянавання спартыўнага комплексу Аўстрыі. У прыватнасці, А.Лукашэнка наведаў шэраг спартовых аб'ектаў Аўстрыі, дзе азнаёміўся з сістэмай падрыхтоўкі атлетаў.

Падчас свайго знаходжання ў Аўстрыі А.Лукашэнка ўжо двойчы згуляў у хакей, а ў матчы з адной з мясцовых аматарскіх камандаў асабіста закінуў восем шайбаў. «Агульны лік у гэтым матчы аказаўся 17:3 на карысць беларускай каманды», – сказала Н.Пяткевіч.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ**

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# Завяршэнне аперацыі «Анаконда»

*Горны пасёлак Шах-е-Кот, які апынуўся ў цэнтры самага шырокамаштабнага наступу амерыканскіх войскаў у Афганістане, ляжыць у руінах. Рэшткі будынкаў загрувашчваюць цэнтральную вуліцу паселішча, размешчанага на вышыні 2 500 метраў.*

Вакол яго – таксама адны развалiны. Пад паваленымі падчас бамбаванняў дрэвамі можна ўбачыць два пашкоджаныя аўтамабілі. Ля ўзгорка паміж камянёў – труп баевіка ў карычневых штанах з добрай тканіны і высокіх ваенных ботах. Верхняя частка цела прыкрытая курткай. «Гэта чачэнец», – сцвярджае палявы камандзір Наім Садат. Пра гэта сведчыць, на ягоную думку, светлая скура. Непадалёк ляжаць зубная шчотка, цюбік з зубной пастай, шпрыцы ды яшчэ адзін напаўабгарэлы труп чачэнца.

«Бітва ў Шах-е-Кот завершана. Мы прачасалі ўсе населеныя пункты ў акрузе, там нікога не засталося», – кажа палявы камандзір Шукрула. Ён разам са сваімі людзьмі размясціўся ў 500 метрах ад Шах-е-Коту, тамсама знаходзяцца і каля тузіна амерыканскіх баевікоў. Адзін з іх, які не пажадаў назваць свайго імені, падкрэсліў: «Гэта афганская аперацыя, афганскія палявыя камандзіры вырташаюцца».



На зямлі ляжаць карычневыя пакеты з амерыканскім пайком: малінавым джэмам і яблычным канфіцюрам, сублімаванымі індычкай і куранём, сухімі напоямі. Афганскія баевікі аддаюць перавагу кебабам з бараніны, якія яны кладуць у вялікія хлебныя праснакі. Барадатыя і стомленыя, усе яны носяць чорныя галаўныя ўборы з шэрсці, на якіх – белыя папяровыя квадрацікі, апазнавальныя адзнакі для штурмавых верталётаў «Апач», што лётаюць у небе над раёнам баявых дзеянняў.

Нягледзячы на тое, што бітва пад Шах-е-Котам скончылася, барацьба з талібамі і іхнімі саюзнікамі з «Аль-Каіды» працягваецца, сцвярджае палявы камандзір Хускіяр. Амерыканскія камандас прачэсваюць сядзець у гарах: яны будуць займацца пошукамі ўцекачоў, а таксама пячораў, якія трэба знішчыць. Па дадзеных амерыканскага камандавання, у аперацыі было ліквідавана да 700 баевікоў. А па словах Хускіяра, «бальшыні баевікоў «Аль-Каіды» ўсё-такі ўдалося ўцячы».

У першую чаргу, аднаму з лідэраў баевікоў, Саіфуру Рахману. Ён быў паранены, але здолеў прабрацца ў суседні Пакістан. А ягоны брат і пляменнік – забітыя. Па словах палоннага таліба, сярод абложаных было 14 арабскіх, 250 чачэнскіх, узбекскіх і таджыкскіх баевікоў і каля 600 талібаў. Афганцы былі вымушаныя абараняцца, і 200 з іх збеглі апошнімі днямі ў родныя вёскі.

Генерал Гул Хайдэр, які прыбыў на чале калоны ўрадавых войскаў у складзе 1 000 чалавек напярэдадні завяршэння баявых дзеянняў, агледзеў свае войскі, якім удалося даставіць на такую вышыню танк Т-62, ракетныя ўстаноўкі «Кацюша» і гусенічныя бронетранспарцёры.

**Франсуаз ШЫПО, Le Monde**

# Грузія можа правесці ваенную аперацыю ў Абхазіі

Прадстаўнікі ўраду Грузіі заявілі ў пятніцу, што не выключаюць магчымасці правядзення на тэрыторыі Абхазіі «спецыяльных антытэрарыстычных аперацый», як перадае *Reuters*. На іх думку, гэта не азначае пачатку вайны за вяртанне Сухумі пад грузінскі кантроль.

Прэс-сакратар МЗС Грузіі Каха Сіхарулідзе заявіў, што аперацыі, якія грузінская армія з дапамогай амерыканскіх дарадцаў пачне праводзіць супраць міжнародных тэрарыстаў, могуць распаўсюдзіцца на ўсю тэрыторыю Грузіі, у тым ліку і на Абхазію.

«Што датычыць Абхазіі, то я кажу не пра нейкія ваенныя аперацыі, а пра спецыяльныя аперацыі, якія мы можам праводзіць у кожнай частцы краіны, – падкрэсліў прадстаўнік МЗС Грузіі і дадаў: – Антытэрарыстычная аперацыя не азначае пачатку вайны з Абхазіяй».

Але раней абхазскія ўлады паведамілі, што ў канцы сакавіка ці ў траўні Грузія мае намер правесці супраць Абхазіі *шырокамаштабную ваенную аперацыю*. Як сказаў паўнамоцны прадстаўнік самаабвешчанай рэспублікі Абхазія ў Маскве Ігар Ахба, аперацыя можа быць здзейснена «з боку Кадорскай цясніны, таксама магчымая высадка марскога дэсанту і прарыву грузінска-абхазскай мяжы па рацэ Інгуры».

«Грузінскі бок наўмысна распаўсюджвае дэзінфармацыю, каб даць падставу для правядзення ваенных аперацыі і вырашыць праблему Абхазіі сілавым шляхам», – лічыць Ігар Ахба.

Ён мяркуе, што менавіта так трэба расцэньваць заявы пра тое, што на тэрыторыі аўтаноміі дзейнічаюць вахабісцкія цэнтры і знаходзяцца баевікі «Аль-Каіды», пра што ў панядзелак сказаў прадстаўнік старшыні ўраду ў Тбілісі Вярхоўнага савету Аўтаномнай Рэспублікі Абхазія Тамаз Надарэйшвілі.

Надарэйшвілі якраз сцвярджае, што ў Абхазіі знаходзяцца каля 120 удзельнікаў тэрарыстычных груповак з Сірыі, Турцыі і Іарданіі, а таксама хаваюцца некалькі тэрарыстаў, прычынных да захопу ў 90-я гады карабля «Аўрасія», што ішоў з Трабзону ў Сочы.

Па словах Ігара Ахбы, «на тэрыторыі Абхазіі ніколі не было і няма ніякіх вахабісцкіх цэнтраў, а таксама ўдзельнікаў тэрарыстычных груповак, звязаных з «Аль-Каідай».

Запэўніванні ўладаў Грузіі ў тым, што заходнія краіны аказваюць ім ваенную дапамогу для падрыхтоўкі грузінскіх спецпадраздзяленняў супраць тэрарыстаў у Панкіскай цясніне, з'яўляюцца «дымавой заслонай», лічыць Ігар Ахба. «У першую чаргу яна (спецаперацыя) будзе накіравана супраць Абхазіі», – заявіў ён.



# Нават шэрыф трымаецца закону

**Крыстоф БЕРТРАМ, дырэктар Фонду навукі і палітыкі ў Берліне**

*Такое ўражанне, што Штаты вырашылі адмовіцца ад асноўнага інструменту ўрэгулявання адносінаў паміж дзяржавамі – міжнародных перамоваў і інстытутаў, якія сочаць за імі. Дамова па супрацьракетнай абароне (СРА) з былым СССР была скасаваная. Пратакол па кантролі над выкананнем забароны на вытворчасць біялагічнай зброі быў адхілены. Кіёцкая дамова па змене клімату была абвешчана непрымальнай для ЗША. Праект Міжнароднага Суду ААН быў асмяяны і раскрытыкаваны.*

Міжнародныя дамовы, як паведаміла адміністрацыя Буша, магчыма падыходзяць для больш слабых краінаў – але яны непрымальныя абмежавальнікі свабоды дзеянняў для адзінай у свеце звышдзяржавы. Мы – не сведкі капернікаўскага перагляду арбітаў сусветнай дыпламатыі. Бо свет без дамоваў і інстытутаў нарабіць шмат праблемаў не толькі бальшыні краінаў, ён таксама нанясе шкоду і магутнай Амерыцы.

Досвед расправы з баевікамі «Талібану» і «Аль-Каіды», набыты ў Гуантанама, выразна пра гэта сведчыць. У мінулым Жэнеўская канвенцыя вызначыла, як след абыходзіцца з палоннымі ўдзельнікамі вайны, што змагаліся ў складзе рэгулярнай арміі, а таксама з чальцамі нерэгулярных вайсковых падраздзяленняў: да іх не павінны ставіцца, як да крымінальнікаў.

Спярша міністр абароны ЗША Дональд Рамсфельд заявіў, што гэта міжнароднае пагадненне непрымальнае. Аднак пасля выказванні Пентагону сталі менш вострымі: праблемы, па сутнасці, не існуе, бо палонныя хутка будуць вызваленыя, і ставяцца да іх усё-такі добра. У рэшце рэшт, прэзідэнт Буш абвесціў, што правам абароны Жэнеўскай канвенцыі будуць карыстацца байцы «Талібану», але не тэрарысты «Аль-Каіды».

Ясна, з якой прычыны яны далі задні ход: калі ЗША пастаўяць Жэнеўскую канвенцыю пад сумнеў, то амерыканскія салдаты самі могуць пазбавіцца абароны, калі трапяць у палон. Паколькі ЗША заўляюць пра права перагляду ці выхаду з міжнародных дамоваў на сваё жаданне, то яны наўрад ці змогуць абвінавацiць іншых, калі тыя зробяць тое самае.

Праз сваю кволасць міжнароднае права залежыць ад падтрымкі найбольш уплывовых удзельнікаў у міжнародных справах: калі іхныя абавязанні знаходзяцца пад сумненам, то яно ўжо не можа спрацоўваць. Але здатнасць магутных дзяржаваў рабіць уплыў у міжнародным маштабе таксама залежыць ад таго, як яны падтрымліваюць міжнароднае права. У сваёй ваеннай магутнасці Амерыка ні ад кога не залежыць, аднак у сваім уплыве ў свеце ЗША залежныя ад ухвалення іншых, меншых краінаў. Калі ЗША будуць ухіляцца ад міжнароднага права, самага моцнага сімвалу для найбольш справядлівай міжнароднай сістэмы, яны будуць паступова траціць свой уплыў.

Гэта ўрок Гуантанама.

Непакой Штатаў адносна асноўнай часткі законаў міжнароднага права, што датычыць канфліктаў, не ўяўляецца абсалютна беспадстаўным. Пры наяўнасці новых праблемаў, звязаных з адсутнасцю бяспекі ў глабальным маштабе і выклікаў, ва ўсякім разе часткова, прыватызацыяй сілы, цяпер існуе неадкладная задача развіцця міжнародных нормаў, якія б адпавядалі сучасным умовам. Проста настойваць, як таго хочуць некаторыя праваназнаўцы-пурытане, на святасці існых пагадненняў недастаткова: калі яны задавальнялі міжнародным патрабаванні ў мінулым, гэта не азначае, што яны жыццяздольныя і цяпер, калі дзеячы недзяржаўнага маштабу вырываюцца на арэну, якая да гэтай пары была манапалізаваная дзяржавамі.

Таму, магчыма, выпадзе магчымасць для перагляду Жэнеўскай канвенцыі, таксама як гэта здарылася з новым поглядам на праект, што прапаноўвае зацвердзіць стала дзеючы міжнародны крымінальны суд. Паколькі Амерыка працягвае адмаўляць гэты праект суду (які яшчэ не ўступіў у сілу), еўрапейскія ўрады, замест таго, каб няўхільна яго прытрымлівацца, лепей бы прапанавалі стварыць спецыяльны міжнародны суд, які будзе займацца злачынцамі «Аль-Каіды» і, магчыма, будзе дадаткам Гаагскага трыбуналу, які разглядае цяпер справу ваенных злачынцаў балканскіх войнаў.

Стварэнне такога суду прадэманстравала б, што дзеянні міжнародных тэрарыстаў нанеслі абразу міжнароднай супольнасці ў цэлым, а не толькі ЗША. Гэта магло б таксама дапамагчы адміністрацыі Буша распрацаваць больш пераканаўчую працэдуру, чым тая, што прадугледжваецца сёння для выканання клятвы прэзідэнта правесці да суду тых, хто вінаваты ў здзяйсненні злачынстваў 11 верасня.

Міжнародныя пагадненні і міжнароднае права настолькі жыццёва важныя для суіснавання на гэтай шчыльнанаселенай планеце, што нават звышдзяржава не можа абысціся без іх. Дый у палітыцы неразумна ісці супраць логікі, бо простая логіка міжнародных пагадненняў заключаецца ў тым, што калі адзін з бакоў іх не зайважае, то і іншыя будуць рабіць гэтаксама.

**© Project Syndicate, люты 2002**

# Рэлігійная паліцыя не дала выратаваць дзяцей

Рэлігійная паліцыя Саудаўскай Аравіі падчас пажару ў жаночай гімназіі ў горадзе Мекка не давала навучэнкам пакінуць палаючы будынак, паведамляе *BBC News*. Паводле сведчанняў відавочцаў, паліцэйскія не выпускалі дзяўчынак, бо на іх не было галаўных хустак і сукенак, якія хаваюць ногі.

Сведкі расказвалі, што бачылі, як паліцэйскія з падраздзялення шарыяцкай паліцыі збівалі вучаніц, не даючы ім выбрацца з полымя. Апроч таго, яны забаранілі пажарным, якія спрабавалі ўратаваць дзяцей, наблізіцца да будынку гімназіі. «Яны казалі, што гэта грахоўна», – распавядае адзін з відавочцаў. Паліцыя зачыніла дзверы школы і не дазволіла дзяўчатам выйсці з палаючай вучэльні. Пажарным, якія набліжаліся да школы, прыходзілася літаральна біцца з паліцэйскімі. Тым не менш, 15 навучэнак не змаглі выбрацца з гімназіі і загінулі ў полымі. Яшчэ больш за 50 трапілі ў шпіталь з апёкамі і траўмамі.

# Статус для Прыднястроўя

Кішынёў гатовы даць саманазванай Прыднястроўскай рэспубліцы «самы шырокі статус у складзе Малдовы, замацаваўшы асобныя артыкулы ў малдаўскай канстытуцыі». Пра гэта заявіў прэзідэнт Малдовы Уладзімір Варонін у Адэсе на сумеснай з прэзідэнтамі Украіны і Расіі Леанідам Кучмай і Уладзімірам Пуціным прэскanферэнцыі. Па словах Вароніна, ён «як ніколі задаволены размовай». «У нас поўнае ўзаемаразуменне адносна шляхоў урэгулявання прыднястроўскай праблемы, якая ёсць самая сур'ёзная праблема Малдовы», – падкрэсліў Варонін. Як адрэагавала на гэтыя абяцанні саманазваная Прыднястроўская рэспубліка, пакуль невядома.

# Мусульмане і індусы спрачаюцца з-за валасу

Улады індыйскага паўночнага штату Джаму і Кашмір другі дзень не могуць нармалізаваць абстаноўку ў найбуйнейшым горадзе Срынагары, дзе праходзяць дэманстрацыі пратэсту прадстаўнікоў мусульманскага насельніцтва, паведамляе *ИТАР-ТАСС*.

Падстава для пачатку акцыі – абразлівая для мусульманаў заява лідэра ўплывовай індускай арганізацыі «Вішва хінду парышад» (ВХП) Віная Кац'яра. У інтэрв'ю газеце «Эйшн эйдж» гэты дэпутат парламенту ад правячай у Індыі партыі сцвярджае, што волас Прарока, што захоўваецца ў галоўнай мячэці Срынагару, быццам бы не належаў Махамеду, а насамрэч быў «узяты з барады індускага святара».

Кац'яр пры гэтым абяцаў дабіцца ў судзе пацверджання сваёй версіі, што выклікала рост узрушэння мусульманаў, якія складаюць бальшыню насельніцтва Джаму і Кашміру.

На заклік мясцовай студэнцкай асацыяцыі ў Срынагары зачыненыя школы, не працуюць пошта і крамы. Пустыя вуліцы гораду патрулююць узмоцненыя нарады ваенізаванай паліцыі і вайскоўцаў.

Супрацоўнікі сілаў бяспекі былі вымушаныя выкарыстаць гранаты са слёзацечным газам супраць удзельнікаў дэманстрацыі мусульманаў, якая ледзь не прывяла да бязладдзя.

Лідэры розных палітычных партыяў Джаму і Кашміру патрабавалі ад Кац'яра неадкладна скласці дэпутацкія паўнамоцтвы і пакінуць парламент. Вінаватыя ў скандале адмаўляецца саступіць гэтым патрабаванням.



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# Мемарыял у Курапатах

## Для сумленных людзей слова Курапаты гучыць, як смяротны стрэл, які абарваў сотні тысяч жыццяў. Аднак па сённяшні дзень там не створаны мемарыял

*Але якім павінен быць мемарыял на месцы масавых расстрэлаў і пахавання ў брацкіх магілах ахвяраў сталінскіх рэпрэсій? Якая асноўная ідэя мемарыялізацыі? З такімі пытаннямі карэспандэнтка НАШАЙ СВАБОДЫ звярнулася да вядомага мастака Аляксея Марачкіна і да навуковага кіраўніка нерухомай гістарычна-культурнай каштоўнасці «Месца згубы ахвяраў палітычных рэпрэсій Курапаты» Маі Кляшторнай.*

### Меркаванні Аляксея Марачкіна



Стварэнне мемарыялу ў Курапатах патрабуе паэтапнага вырашэння. Цяпер мы ўжо маем досвед, і важна не зрабіць папярэдніх памылак. Калі на пачатку 90-х гадоў быў абвешчаны конкурс на стварэнне мемарыялу, ён праваліўся, бо на той час мы не мелі выразнай ідэйнай канцэпцыі гэтага помніка. Але відавочна, што канцэпцыя мемарыялу – першая і неабходная ўмова. Яна павінна быць выпрацаваная, узгодненая і абмеркаваная грамадскасцю – гэта якраз той выпадак, калі трэба прыслухацца да людзей, улічыць іх меркаванне і затым перадаць справу творчай групе.

Іншы падыход нясе ў сабе небяспеку, прыкладам гэтага – праект помніка ў Курапатах, што прапанаваў Камітэт фонду міру. У прапанове пазначана, што мемарыял *«пролитой крови, представляет собой сооружение ... один из главных элементов которого должен быть выполнен в форме большой подковы – дуги, которая в народе символизирует такие человеческие понятия, как удача, везение, благополучие, примирение»*. І хто толькі гэта прыдумаў? Гэта што, вялікая «ўдача», што НКУСаўцы расстрэльвалі там людзей? Гэта што, «вязенне», «прымірэнне»?

Мы заяўляем сёння, што мемарыялізацыя помніка – гэта памяць пра ахвяры сталінскіх палітычных рэпрэсій. У дакуменце Камітэту міру, для параўнання, напісана, што Курапаты – гэта «месца ахвяраў». Я ведаю, што цяпер ідуць размовы і нават некаторыя навукоўцы выказваюцца за тое, што «трэба яшчэ паглядзець, можа гэта былі зусім не палітычныя рэпрэсіі». Мы катэгарычна не згодныя з такім падыходам і настойваем на тым, што Курапаты – гэта месца пахавання менавіта ахвяраў палітычных рэпрэсій.

Сёння ўжо не сакрэт, што здзек з гэтай мясціны адбываўся ў некалькі этапаў. У пачатку 1960-х гадоў праз урочышча праклалі дарогу. Яна прайшла праз даволі вялікі курган. Тады ўсе толькі шапталіся, у прэсе інфармацыі не было. Чалавечыя парэшткі, што там знайшлі, зграблі і невядома куды выкінулі. Потым па магілах ахвяраў працягнулі газаправод. Апошнім здзекам стала пашырэнне кальцавой дарогі, распачатае мінулым годам. Але тут на абарону стала грамадскасць, валанцёры, якія крыжамі змагаліся супраць уладаў. Улічваючы гэта, я сцвярджаю, што мемарыялізацыя Курапатаў ужо адбываецца.

Але, безумоўна, неабходны больш сур'ёзны падыход. Перш за ўсё трэба акрэсліць зону аховы вакол пахаванняў і надаць Курапатам статус найвышэйшай катэгорыі культурна-гістарычнай каштоўнасці. Хоць, шчыра кажучы, сама гэта фармулёўка «культурна-гістарычная каштоўнасць» вельмі недакладная. Гэта значыць, што мы прыраўноўваем Курапаты да культурных помнікаў, як, напрыклад, замак у Міры. Безумоўна, гэтае месца патрабуе асобага статусу.

Я склаў уласны праект-прапанову мемарыяльнага комплексу на гэтым месцы. Перш за ўсё, на маю думку, трэба зрабіць агароджу згодна з традыцыяй беларускіх могільнікаў, агароджу з каменю, жалеза. Трэба знайсці трапны вобраз для агароджы. Як я бачу, там павінна быць падсвечванне, якое б імітавала свечкі, што гараць ноччу і асвятляюць гэтае месца чырвоным святлом.

У мемарыял абавязкова павінны ўвайсці сённяшнія крыжы змагання. Акрамя таго, я запланаваў спецыяльнае месца, дзе павінна быць размешчана інфармацыя пра тое, як пракладалася першая і другая дарогі, як адбывалася іх пашырэнне.

Намёт, што там цяпер стаіць, таксама трэба абавязкова захаваць. Толькі яго трэба зрабіць з нейкіх іншых матэрыялаў.

Крыж пакутаў – гэта адзін з акцэнтаў усёй кампазіцыі, якому трэба надаць высакароднасць. Абавязкова павінны прысутнічаць нейкія скульптурныя аб'ёмы, дзе на камянях будуць выбітыя ўсе месцы ў Беларусі, дзе праводзіліся сталінскія рэпрэсіі. Як на маю думку, Мая Кляшторная слушна прапанавала, каб у цэнтры прасекі была чырвоная паласа кветак – быццам кроў, што ліецца па дарозе да месца пакутаў. Мне падаецца, што кульмінацыяй усяго павінны стаць тры вялізарныя крыжы. А ўнізе гэтай кампазіцыі – шкляная сфера, у сярэдзіне якой павінна быць закладзеная нейкая інфармацыя, нават просты сімвал, напрыклад пульсуючае чырвонае святло – вобраз жывога сэрца. І побач з гэтай сферай – рэшткі раскопак, рэчы забітых – сведчанне таго, што адбывалася.

Магілы, я лічу, трэба пакінуць такімі, якія яны ёсць. Але трэба іх дагледаць, каб яны не зарасталі, пракласці да іх сцежкі чырвонай зямлёю. Я хачу адзначыць, што ідэя можа быць абсалютна іншай, больш сучаснай, прычым прасторы для фантазіі тут досыць.

Наступны крок – практычны. Нам усім разам – Камітэту міру, грамадскім ініцыятывам – трэба выпрацаваць агульную канцэпцыю.

На паседжанні, што адбылося на мінулым тыдні, мы пагадзіліся, што на сёння мы крыху адрозніваемся ў падыходах ад Камітэту міру. Наступным разам мы сустрэнемся і вызначымся ў нашай агульнай пазіцыі.

Наконт стварэння мемарыялу ў Курапатах я размаўляў з Васілём Уладзіміравічам Быкавым. У прыватнай гутарцы ён адзначыў, што хацеў бы бачыць у Курапатах нейкі манументальны вобраз. І, канечне, Курапаты не могуць, на ягоную думку, быць месцам замірэння. Гэта месца абвінавачвання ў тым, што здарылася.



План-рысунак мемарыяльнага комплексу ва ўрочышчы Курапаты. Аўтар А.Марачкін

### Меркаванні Маі Кляшторнай



Цяпер, які б знак мы там ні паставілі, самым верным і лаканічным сімвалам, які адпавядае Курапатам, быў і застаецца крыж – знак пакутаў. Другі элемент, які мае быць помнікам у Курапатах, на маю думку, – нейкі сімвал абвінавачання ў гэтай трагедыі.

Сёння канцэпцыю мемарыялу, створаную Беларускім фондам міру, падалі ўва ўсе вышэйшыя органы ўлады. Асноўная яе думка, як я зразумела, палягае ў тым, што Курапаты павінны стаць «знакам прымірэння», а само месца знаходжання Курапатаў там пазначана як Мінская кальцавая аўтадарога. Ужо ўлічваючы толькі гэтыя факты, можна ахарактарызаваць гэты праект як не сур'ёзны. А сімвал, які яны выбралі, па-мойму, зусім не падыходзіць для гэтага месца. Такое ўражанне, што пра гэта ніхто добра не думаў. Мяне вельмі гэта абурыла. Увесь гэты праект зроблены без усялякіх душэўных намаганняў. Мы сутыкнуліся з абстрактнай ідэяй «Мемарыялу пралітай крыві», без канкрэтнага разумення, якой крыві. Каб распавесці пра пралітую кроў, трэба ў душы перажыць гэтую трагедыю, перахварэць на гэта. І хто душэўны боль па Курапатах мае ў сваім сэрцы, той не можа пагадзіцца з такой прапановай.

Наваствораная канцэпцыя – гэта спроба зрабіць што заўгодна, каб толькі закрыць пытанне. На сёння галоўнай мэтай я бачу захаваць тое, што ёсць: каб не разбураліся магілы, каб туды не сунуліся з жалезабетоннымі канструкцыямі, каб далі спакойна расці дрэвам, – гэта асноўнае. Мы хочам прыходзіць у Курапаты моўчкі, як у святыню. Слухаць... Для мяне дрэвы ў Курапатах жывыя.

Думаю, у Курапатах не павінна быць ніякіх храмаў. Нават у прылеглай зоне. Я маю на ўвазе – канфесійных. Тут неабходны больш далікатны падыход, каб людзі там больш маўчалі і слухалі тых, хто можа нешта засведчыць. А службу можна і ў горадзе адправіць.

Калі ўзводзіць там нейкае збудаванне, то гэта павінна быць нешта такое, што ўтрымлівала б розную інфармацыю для таго, каб чалавек і задумаўся, і памаліўся, і адчуў, дзе ён знаходзіцца. А калі адна канфесія ў другой будзе адбіраць зямлю і будаваць свае храмы – гэта не ўшануе памяці ахвяраў...

Абавязкова павінна быць агароджа па ўсім перыметры помніка. Прычым пераважна празрыстая, каб лес праз яе было бачна. Але месцамі яна павінна быць глухой, як сцяна, на якой былі б выбітыя нейкія інфармацыйна-гістарычныя звесткі.

Тут, у гэтым лесе, расстраляныя родныя вялікай колькасці нашых суайчыннікаў. Таму гэта нацыянальная святыня.

* * *

Адсутнасць у Курапатах мемарыялу сведчыць пра тое, што і сёння грамадства не асэнсавала трагедыі сталіншчыны, забойстваў тысячаў людзей на гэтым месцы. Безумоўна, грамадскае абмеркаванне прапанаваных праектаў, абмен думкамі паспрыяе ўсведамленню гэтага і паўплывае на вобраз помніка, калі яго будуць вырашаць творцы.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**



Адзін з варыянтаў закладнога каменя. Галгофа – месца пакутаў. Тры крыжы, якія ўжо стаяць на гэтым месцы. Тры анёлы як сімвал троіцы, сімвал душаў людскіх. Самотныя анёлы схіліліся над зямной сферай у выглядзе растрэснутага шара. У гэтай сферы закладзена ўся інфармацыя пра злачынства сталінскіх палітычных рэпрэсій. Побач – аб'ём пад браняваным шклом, дзе знаходзяцца рэшткі прадметаў, якія належалі нявінна закатаваным. Злева – сцяна маўчання з невялікімі нішамі. У гэтыя нішы ставяцца памінальныя свечкі.

### Каментар НАШАЙ СВАБОДЫ

Праект Аляксея Марачкіна, адлюстраваны ў эскізе, пакуль адзіны наглядны экспанат, які дазваляе ўбачыць мастацкі вобраз мемарыялу ў Курапатах. Наколькі нам вядома, гэты эскізны праект пакуль не выстаўляўся на публічны агляд і грамадскае абмеркаванне. Усе сённяшнія дыспуты і спрэчкі пра канцэпцыю і выгляд помніка ахвярам сталінскага генацыду ў Курапатах вядуцца на ўзроўні асабістых уяўленняў з дапамогай словаў. З прычыны гэтакай недакладнасці яны не ацэньваюцца і не параўноўваюцца.

Безумоўна, што мемарыял будзе мець той выгляд, які знойдуць для яго пераможцы ці пераможца спецыяльнага творчага конкурсу, які плануецца абвясціць. Прадыктаваць свае эстэтычныя і ідэалагічныя ўмовы, апроч гістарычнай даведкі і плану мясцовасці, творчым асобам, якія пажадаюць прыняць удзел у конкурсе, ніхто не зможа і не мае права. Ніводзін сапраўдны самастойны творца не пагадзіцца працаваць пад дыктоўку неспецыялістаў, якім здаецца, што яны ведаюць як павінна быць. Інакш будзем мець недарэчны працяг савецкай традыцыі планавага задання мастаку і скульптару, калі партыйныя функцыянеры патрабавалі рабіць помнікі пад свой недаразвіты густ. Таму будуць там крыжы ці не будзе нічога, апроч памятнага валуна; застанецца прасека, якой не было ў гады масавых расстрэлаў і па якой не вадзілі на Галгофу, ці застанецца палатка, у якой зімавалі валанцёры, ці творчыя групы палічаць яе неадэкватнай зместу трагічнай мясціны, ці пакінуць драўляныя крыжы, пастаўленыя моладдзю ўздоўж дарогі, вырашыцца ў конкурсных праектах. А пакуль што ідэя мемарыялу канчаткова не выкрышталізавалася, пакуль яна падаецца ў выглядзе звычных сярэдняму чалавеку хрысціянскіх сімвалаў, хоць там было забіта шмат атэістаў і камуністаў, не згодных са сталінскім таталітарным рэжымам, габрэяў і татараў. Усіх іх пад агульны крыж не падвядзеш. Ніводная арганізацыя не мае выключных правоў у адносінах да ўшанавання памяці ахвяраў генацыду. І габрэйскі сямісвечнік, і мусульманскі ветах, і чырвоная зорка маюць роўныя правы быць пастаўленыя ва ўрочышчы, калі там стаяць хрысціянскія крыжы. Відаць, там не павінна быць нічога, што раз'ядноўвае людзей па выдуманых імі прыкметах.

Аляксей Марачкін быў першым, хто раскрыў праўду пра Курапаты значна раней за вядомы артыкул З.Пазьняка. Але тады грамадства не было падрыхтаванае адгукнуцца. Цяпер Аляксей Марачкін першым стварыў праектны эскіз мемарыялу, на яго можна рэальна рэагаваць сваімі думкамі і сваімі варыянтамі.

Пакуль будзе ісці грамадскае абмеркаванне праекту мемарыялу ў Курапатах, рэдакцыя будзе друкаваць розныя думкі і эскізныя прапановы (малюнкі). Іх можна дасылаць на рэдакцыйны адрас як звычайнай, так і электроннай поштай. Мы дастойна ўшануем памяць ахвяраў, калі абаронцамі, удзельнікамі мемарыялізацыі стане кожны, не передаваяраючы свае пачуцці і свае правы на памяць асобным арганізацыям, суполкам і персонам.

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014






ЭКАЛОГІЯ

## Смяротныя фільтры кампаніі *PHILIP MORRIS*

З фільтрам – яшчэ горай, чым без яго. Згодна з амерыканскім даследаваннем, апублікаваным у часопісе *Tobacco Control*, фірма *Philip Morris* ужо сорак гадоў прадае цыгарэты з дэфектнымі фільтрамі. Цалкам здаючы сабе справы ў гэтым. Фільтр у момант удыху пакідае ў роце мікраскапічныя фібры ацэтату цэлюлозы, насычаныя смоламі. Амерыканскі гігант не інфармаваў ані санітарныя ўлады, ані курцоў пра патэнцыяльную небяспеку сваіх фільтраў. Горш за ўсё, кампанія «выяўляла нядбайнасць» у ацэнцы таксічнасці.

Гэтыя абвінавачанні вынесеныя на падставе некалькіх дзесяткаў тысячаў дакументаў унутранага карыстання, выстаўленых на суд грамадскасці групай прафесара Паўлі з інстытуту вывучэння раку *Rouswelt Park Institute Cancer Institute* ў Буфала. «Тэставанні (на глыбіню пранікнення гэтых часціц у арганізм), відаць, праводзіліся ў сакрэтных лабараторыях», – лічыць Паўлі. На думку гэтага навукоўцы, у свеце праведзена вельмі мала незалежных даследаванняў, але вопыты, якія ставілі на жывёлах, сведчаць, што трапленне гэтых часціц у арганізм можа справакаваць рак. «Само паленне выклікае цяжкія захворванні, – адрэагаваў Рэмі Кальве, дырэктар па сувязях кампаніі *Philip Morris*. – Але, згодна з нашымі даследаваннямі, фільтры не нясуць у сабе ніякай дадатковай небяспекі. І нічога не дае падставаў заключыць, што гэтыя часціцы пратачаюцца ў лёгкія. З 2000 году мы супрацоўнічаем у гэтым пытанні з амерыканскімі санітарнымі ўладамі, і нам няма чаго хаваць». Застаецца дадаць, што такія «хатнія» доследы так і не былі апублікаваныя. «Колькасць часціц дастаткова вялікая. Іх трапленне разам з сумессю нікаціну і смолаў дадаткова ўплывае на арганізм, калі курэц зацягваецца, – адзначае прафесар Жэрар Дзюбуа, прэзідэнт французскага Нацыянальнага камітэту па барацьбе з паленнем. – Ніводзін настолькі ж небяспечны, як цыгарэта, прадукт не падпадаў пад такую малую колькасць навуковых даследаванняў, ніводнаму прадукту не выстаўляліся настолькі ж нізкія патрабаванні па кансістэнцыі».

**Liberation, Францыя**

## Фінляндыя – самая экалагічна чыстая краіна

Спецыялісты з Йельскага і Калумбійскага універсітэтаў ЗША, а таксама прадстаўнікі Сусветнага эканамічнага форуму апублікавалі спіс з 142 краінаў, дзе стан экалогіі знаходзіцца на адносна бяспечным узроўні. З яго выцякае, што Іарданія – самая экалагічна чыстая краіна арабскага свету. Яна займае ў гэтым спісе 53-е месца, апярэдзіўшы такія развітыя краіны, як Японія, Вялікабрытанія і Ізраіль.

Другім у арабскім рэгіёне і 70-м у свеце стаў Алжыр. Яшчэ некалькі арабскіх краінаў размесціліся ў канцы спісу: Саудаўская Аравія і Аб'яднаныя Арабскія Эміраты адпаведна на 138-м і 141-м месцы. Закрывае ж спіс Кувейт, што заняў у выніку 142-е месца.

Злучаныя Штаты Амерыкі ў гэтым спісе апынуліся на 45-м месцы. Бельгію, што лічылася да гэтага часу адной з самых экалагічна чыстых на нашай планеце, спецыялісты паставілі гэтым разам на 125-е месца.

А ўпэўнена лідзіруе ў гэтым спісе і ўжо не першы год Фінляндыя. У «краіне тысячы азёраў» назіраецца самы нізкі ў свеце ўзровень забруджання паветра і вады, а таксама высокая гатоўнасць уладаў змагацца за чысціню навакольнага асяроддзя. Зрэшты, на гэты раз усе верхнія радкі табліцы займаюць скандынавы: 2-е месца ў Нарвегіі, 3-е – у Швецыі. Далей размесціўся яшчэ адзін прадстаўнік паўночных шыротаў – Канада. Месцы размеркаваліся ў адпаведнасці з наступнымі крытэрыямі: колькасць экалагічных катастроф, слабасць экасістэмы краіны, праца дзяржустановаў, адказных за экалогію ў краіне, здольнасць уладаў супрацьстаяць экалагічным катастрофам і кампетэнтнасць упраўлення прыроднымі рэсурсамі. Сярод іншых фактараў названы ўзровень забруджанасці атмасферы ў буйных гарадах і якасць вады ў рэках і вадаёмах.

**Первін МАМЕД-ЗАДЭ**

# Дзе ў Мінску чыстыя лясы

*У лясах і лесапарках Мінску апошнім часам назіраюцца такія працэсы: з аднаго боку, стан саміх дрэваў у іх палепшыўся, з іншага – пачалася дэградацыя ніжніх ярусаў лясной расліннасці – імхоў, траваў і кустоўя. Да такіх высноваў прыйшлі спецыялісты Інстытуту эксперыментальнай батанікі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі па выніках праведзеных мінулым летам даследаванняў.*


Фота IREX/ProMedia

Паводле словаў загадчыка лабараторыі прадуктыўнасці і ўстойлівасці лясных экасістэм Інстытуту эксперыментальнай батанікі Аляксандра Пугачэўскага, даследаванні стану лясоў і лесапаркавых пасадак у межах Мінскай кальцавой дарогі на замову Мінскага камітэту прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя інстытут праводзіць дзевяты год запар. Перш-наперш экспертаў цікавіць ступень іх забруджанасці і дэградацыі.

На пачатку 1990-ых гадоў, калі Інстытут эксперыментальнай батанікі толькі распачынаў свае даследаванні, сітуацыя ў лясах была цалкам супрацьлеглая той, якую маем на сёння. У жудасным стане былі дрэвы. Для іх самы вялікі вораг – прамысловыя выкіды, а ў тыя часы нашыя прамыслоўцы яшчэ не спазналі, што такое крызіс, і працавалі на поўную моц. У выніку лясы вакол Мінскага трактарнага заводу ці заводу падшыпнікаў гінулі літаральна на вачах. Няма ліха без дабра, і праз эканамічны крызіс яны пакрысе акрыялі. Сёння дрэвы пачуваюць сябе таксама не ідэальна, але з тагачасным станам гэта не ідзе ні ў якае параўнанне. Не апошняя роля тут належала і засухам пачатку 1990-х гадоў, ад якіх лясы адыходзяць дагэтуль.

Пасля на змену тэхнагеннаму забруджванню прыйшоў чалавек. Працы мабыць стала меней, а вольнага часу болей, і ўсе кінуліся рэлаксавацца «на прыроду», а гэта значыць – вогнішча, шашлык. А пасля кожнага такога пікніку – гурбы смецця. Пад такім ціскам мінчукоў пачало пагаршацца травяное покрыва ў лясах сталіцы, сталі гінуць кусты.

Паводле прагнозаў Інстытуту эксперыментальнай батанікі, калі такая сітуацыя захаваецца і надалей, то лясы ў межах Мінску проста знікнуць. Яны набудуць статус паркаў. А каб прыкладна ўявіць, што з сябе будзе ўяўляць такі парк, можна прайсціся па сённяшнім парку Горкага: у некаторых ягоных месцах з былога сасновага лесу захаваўся толькі рэдкастойны сасняк. Гэта і ёсць лясны парк нашай будучыні.

Прычынай гэтага перш-наперш стала адсутнасць у лясах нават самай мінімальнай інфраструктуры адпачынку людзей. Адпачывальнікі, шукаючы сабе занятку самастойна, бадзяюцца без мэты па ўсім лесе, вытоптваюць траву, ламаюць галінкі. А тыя ж звычайныя лаўкі, сцежкі, пляцоўкі для дзіцячых гульняў і прыбіральні ў лясах могуць сканцэнтраваць людскую плынь у адным месцы. Тады і самому лесу ўжо «дыхаецца» лягчэй, дый мясцовым бюджэтам на гэтым можна зарабляць.

Спецыялісты Інстытуту эксперыментальнай батанікі прагназавалі надыход такой сітуацыі ў сярэдзіне 1990-ых гадоў і папярэджвалі аб гэтым Мінгарвыканкам. Аднак з тых часоў амаль нічога не змянілася. Толькі ў парку Чалюскінцаў і ў парку 50-годдзя Кастрычніка відаць некаторыя змены па добраўпарадкаванні.

Каб вярнуць мінскім лясам прыстойны выгляд, спатрэбіцца не менш за 15-20 год. Найлепшым варыянтам увогуле было б усе 2 тысячы гектараў лясоў, што ёсць у Мінску, абнесці плотам, каб засцерагчы іх ад людской шкоды. Дарэчы, такі вопыт у Мінску ўжо ёсць. Частка лесу ў раёне вуліцы Нікіфарава, што ва Уруччы, абнеслі плотам, і яна засталася на тэрыторыі прадпрыемства. Лес і дагэтуль там быў у жудасным стане. Цяпер ужо нічога не нагадвае пра адзінае мінулае дзвюх ягоных частак. Лес людзі так і працягвалі вытоптваць, а зяляніна за плотам з гадамі паступова аднавілася і набыла сапраўдны лясны выгляд. Тут ужо з'явіліся і папараць, і ягаднікі.

Паводле доследаў, самыя чыстыя лясы ў сталіцы – у мікрараёне Захад, у Драздах, у раёне прэзідэнцкай рэзідэнцыі і праспекту Машэрава. Адпаведна ўсходу сталіцы і лясам за кальцавой дарогай у тым самым напрамку ад гораду пашанцавала меней. Мала таго, што тут сканцэнтравана большая частка сталічнай прамысловасці, да таго ж вецер у Мінску дзьме пераважна з захаду, зносячы ўсе атмасферныя выкіды гораду на ўсходнія раёны.

Даследчыкі бралі ў гэтых раёнах на пробы кару сасны і мох, якія прызнаныя эталонамі ацэнкі забруджанасці навакольнага асяроддзя, бо сілкуюцца пераважна з паветра. Спецыялісты вызначылі, што серы, нікелю і медзі ў паветры ў 1,5 раза больш, чым у адносна чыстым прыгарадзе. А ў некаторых раёнах гэты паказальнік перавышаны ў 2,5-5 разоў. Прычым гэты бруд не абмінуў і ягаднікі, якія сустракаюцца ў мінскіх лясах. Тыя ж маліны і чарніцы ўтрымліваюць у сабе ў 2 разы большую колькасць цяжкіх металаў, чым за горадам. Таму есці іх спецыялісты не радзяць.

І гэтае шкоднае ўздзеянне гарадской індустрыі адбіваецца на навакольным асяроддзі яшчэ цягам 20 кіламетраў на ўсход ад гораду, а на захадзе – толькі на 2-кіламетровай адлегласці ад кальцавой дарогі. Аднак агульную экалагічную сітуацыю ў горадзе гэтыя паказчыкі не адлюстроўваюць, бо толькі па выкідах цяжкіх металаў аб гэтым меркаваць цяжка.

**Алена ЛАБАНАВА**

## Фальшывыя грошы – царкве

Адзін з наведнікаў Жыровіцкага праваслаўнага манастыра ахвяраваў на царкоўныя справы падробныя пяць тысячаў рублёў. Фальшыўку выявілі пры падліку ахвяраванняў. Выканана яна была вельмі прымітыўна. Аднак заведзена крымінальная справа, і міліцыя паспрабуе выявіць крывадушнага ахвярадаўцу.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Астралагічны прагноз

### ад Веранікі Кудраўцавай на 18 – 24 сакавіка

***Астрапрагноз адлюстроўвае агульны прыродны сацыяльна-псіхалагічны фон накшталт прагнозу надвор'я. Індывідуальнае прагназаванне грунтуецца на дакладных звестках: улічваецца дзень, месяц, год, месца і час нараджэння чалавека.***


**АВЕН.** У першай палове тыдня справы цалкам паспяхова можна ўладзіць, паразмаўляўшы з падатковым інспектарам ці дасведчаным фінансістам. За навучанне таксама трэба плаціць, тым больш што настаўнікі і кансультанты могуць знайсціся талковыя. Затое ў пятніцу ўжо вашая казна папаўняецца звонкай манетай за пасярэдніцкую дзейнасць ці як адзнака ўдзячнасці за ўдзел у працэсах калектыўнага характару.


**ЦЯЛЕЦ.** Здавалася б, сябры ці прадпрымальнікі прапаноўваюць новыя ідэі, якія заслугоўваюць увагі з фінансавага пункту гледжання. Карысна трохі адысці ад спраў, прадумаць варыянты, але не спяшацца да наступнага тыдня, праверыць стан спраў у кампаньёнаў. У пятніцу сужэнец ці партнёр палае пачуццямі, і не спяшайце астудзіць запал, іначай пазбавіце сябе радасцяў жыцця.


**БЛІЗНЯТЫ.** Вы цалкам паспяхова выкарыстоўваеце працоўныя сувязі і знаёмствы ў мэтах пабудовы важных аб'ектаў, уладкавання жытла. Высвятленне «мутных праблемаў» ідзе поўнай хадою, толькі як бы гэта не адбіла ахвоту рухацца далей. Вызначце з панядзелка ўзаемапрымальныя ўмовы. У аўторак і сераду нехта атрымае каштоўную кансультацыю, папярэдне азнаёміцца з месцам і аб'ёмам працы.


**РАК.** Падобна, што ў панядзелак вы падтрымліваеце асабістае знаёмства, жывучы радасцямі мінулых выходных. Можна паспяхова правесці разведку боем па пытаннях прафесійнага росту ці калектыўных прадпрыемстваў, што вас цікавяць, у аўторак і сераду. Гатовы парадаваць навінамі тыя, хто вамі апякуецца. У пятніцу наконт перспектываў, якія адкрываюцца на працы, узнікае лікаванне.


**ЛЕЎ.** Можна ў нармальным рэжыме абмеркаваць нездаровую абстаноўку, што склалася ўжо пару тыдняў таму. Крымінальныя матывы фінансавых непаразуменняў яшчэ не даказаны, не спяшайцеся з высновамі. Паспрабуйце перагледзець наступствы і не падставіць чалавека, які за вас непакоіцца. У аўторак і сераду – цудоўныя магчымасці для ўзвышэння. А пятніца расфарбаваная нюансамі прыемных любоўных перажыванняў.


**ПАННА.** Правядзенне перамоваў з уплывовымі людзьмі і партнёрамі мае пераспектыву ў аўторак і сераду, чакаецца прыезд гасцей здалёк. Аднак ёсць рызыка, што вынікі могуць быць перагледжаны пазней, таму пажадана не спяшацца з высновамі і канчатковым дакументальным афармленнем. У сужэнца ёсць надзея на фінансавыя паступленні ці паляпшэнне стану здароўя.


**ШАЛІ.** Працы пабольшае ў дробязях, але сам працэс вас радуе, здымаюцца стрэсавыя фактары. Змена клімату ў паездках мацуе здароўе, няблага было б хоць трохі адпачыць у санаторыі. Цалкам па сілах выйграць суд ці паспяхова правесці працэс юрыдычнага характару. У пятніцу пра вас кажуць людзі, запрашаюць на салідныя прыёмы ці проста ў сімпатычнае асяроддзе.


**СКАРПІЁН.** Ствараюцца ўсе ўмовы, каб абмеркаваць з партнёрам ці сужэнцам многія аспекты ўзаемаадносінаў і бытавыя нюансы ўзаемадзеяння. Рабіце гэта ў першай палове тыдня, хутка «надвор'е» можа канчаткова сапсавацца. У аўторак і сераду будзе ацэненая ваша мурашыная праца на карысць цэлага калектыву. Верагодна, па выніках дзейнасці можа быць прыбытак у пятніцу, маленькае свята жыцця.


**СТРАЛЕЦ.** З'яўляецца вольны час, у прыватнасці – у аўторак і сераду, для таго, каб заняцца дызайнам кватэры, знайсці добры офіс, вырашыць надзённыя праблемы ў гаспадарстве. Фактар дзіцяці ці дзяцей дапамагае ў ажыццяўленні працоўнага праекту і ў вырашэнні побытавых задачаў. А для пенсіянераў надыходзіць добрая пара дамаўляцца пра правільнае налічэнне пенсіі.


**КАЗЯРОГ.** Дзейснага Казярога не вельмі задавальняе сітуацыя, калі няма дзе павярнуцца. Не той аб'ём, не тая шырыня дзейнасці. Выцягніце з глыбіняў памяці, што такое лёгкі флірт, ці напішыце «нешта творчае». Хай усе думаюць, што ў вас усё лёгка і геніяльна атрымліваецца. А ў аўторак і сераду паспяховыя публічныя выступы, рэкламныя кампаніі, адказы на дзіцячыя пытанні.


**ВАДАЛІЎ.** Быццам бы справы ідуць да ладу ў матэрыяльных адносінах, хаця вы атрымліваеце не больш не менш за той заробак, што вам належыць. Магчыма, дзеці ці каханы чалавек у стане дапамагчы ці ўдала вырашыць кватэрныя справы, і тады будзе лягчэй дыхаць. Сваякі прыносяць прыемныя клопаты. Не адпускайце фінансавую сітуацыю на самацёк, вам трэба будзе пратрымацца яшчэ і наступны тыдзень.


**РЫБЫ.** Поспех у жыцці залежыць ад таго, наколькі вы гатовы тэрмінова перасоўвацца, рэагаваць на прапановы, весці перамовы. Не трэба доўга думаць, улічвайце фактар шанцу. У аўторак, сераду і пятніцу могуць быць дробныя, але прыемныя пакупкі, прыбыткі злёту дзякуючы хутка завязаным дзелавым стасункам. Вы можаце стварыць таленавіты твор сваімі рукамі.

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, вул. Рафіева, д.25. корп.1. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1134 Нумар падпісаны ў друк 17/03/2002 (15:00) Наклад – 7.760

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014